адна зямля
Мядзел Астравец Смаргонь Ашмяны Вілейка Маладзечна Валожын Мінск

# Рэгіянальная газета

15 лютага 2013 года
№ 7 (929)

Тэлетыдзень
http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".



**навіны рэгіёна**

## Смаргонец атрымаў міжнародную перамогу ў барацьбе самба

**СМАРГОНЬ.** Адкрыты чэмпіянат Беларусі па барацьбе самба ўжо пяты раз запар – прэстыжны міжнародны турнір, этап Кубка свету. Паядынкі праходзілі 11 лютага ў сталічным Палацы спорту. У самай відовішчнай, найцяжэйшай катэгорыі, дзе сабраліся спартсмены, якія важаць за 100 кілаграмаў, перамогу атрымаў былы выхаванец смаргонскай спартыўнай школы **Аляксандр Вахавяк**. Ён цяпер набраў выдатную фізічную форму, тры тыдні таму стаў чэмпіёнам краіны па барацьбе дзюдо. І вось – новы гучны поспех! Важнасць гэтаму дасягненню надае той факт, што ў фінале нашаму земляку супрацьстаяў дзеючы чэмпіён свету, таксама беларус **Юры Рыбак**. Лік фінальнай схваткі па балах на карысць Аляксандра Вахавяка – упэўненыя 9:3.

## Аплата электраэнергіі па новых тарыфах – ад 1 сакавіка

**БЕЛАРУСЬ.** Аплаціць электраэнергію па новых правілах з улікам уводу дыферэнцыяваных тарыфаў можна будзе з 1 сакавіка, паведамляе БелТА. Час пераходу са старой сістэмы на новую – з 1 па 10 сакавіка. Таму электраэнергію за люты лепш аплаціць з 10 па 25 сакавіка. Калі аплаціць падчас пераходу, то пасля будзе праведзены пераразлік.

**Настасся РОЎДА, Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



# Унікальны абраз пэндзля Яна Дамеля набывае другое жыццё

**СМАРГОНЬ. Адрэстаўраваны абраз святога Іосіфа з немаўляткам Хрыстом прадэманструюць у адным пакоі з выявай святой Канстанцыі. Такім чынам, адзіныя захаваныя творы знакамітага мастака Яна Дамеля апынуцца побач.**

Лічылася, што выява святой Канстанцыі – адзіны твор Яна Дамеля, які застаўся ў Беларусі, пакуль у канцы студзеня гомельскі вернік не адшукаў абраз святога Іосіфа ў Вішнеўскім касцёле.

Цяпер нядаўна знойдзеная мастацкая каштоўнасць знаходзіцца ў Гомелі, таму што кошт на рэстаўрацыйныя працы там таннейшы.

Аказалася, у Вішневе быў яшчэ адзін твор Яна Дамеля – абраз святога Тадэвуша. Пасля паўстання 1863 года храм перадалі праваслаўным, а каталікі пабудавалі насупраць яго касцёл. Як паведамляе рэлігійны партал catholic.by, там і размясцілі абраз святога Тадэвуша. Аднак падчас Першай сусветнай вайны знішчылі і абраз, і храм.

Абраз святога Іосіфа знаходзіўся ў будынку былога касцёла, які вярнулі каталікам пры Польшчы. Ён візеў над алтаром, але пачаў старэць – і яго знялі.

Сітуацыю вакол абраза Яна Дамеля каментуе цяперашні святар касцёла Святога Тадэвуша **ксёндз Антоній.**

**– Як атрымалася так, што абраз прастаяў незаўважаным некалькі дзесяцігоддзяў?**

– Карціна была ў нашых запасніках разам з іншымі рэчамі. У гэтай частцы касцёла рэдка хто бывае, таму абраз не заўважылі адразу.

**– Ці можа стацца так, што шмат у якіх касцёлах Беларусі такім жа чынам пыляцца каштоўныя для беларусаў прадметы мастацтва?**

– Я гэтага не выключаю. Што датычыцца нашага касцёла, то ў ім дакладна ужо нічога каштоўнага няма, усё перагледзелі. Але гісторыя Беларусі была вельмі складанай, таму невядома, дзе яшчэ можна знайсці нешта падобнае.

**– Ці можа выпадак з абразам Дамеля стаць добрым прэцэдэнтам для таго, каб у храмах агледзеліся і звярнулі ўвагу на тое, што побач?**

– Сам касцёл не можа займацца такімі справамі. Патрэбная абавязковая дапамога ад спецыялістаў: тых, хто займаецца старажытнымі творамі мастацтва. Калі б яны прыязджалі ў касцёлы і прафесійна і асцярожна ўсё аглядалі – было б цудоўна. Дапамога Міністэрства культуры была б тут вельмі дарэчы.

**– Храмы зацікаўленыя ў тым, каб у іх выстаўляліся старажытныя абразы?**

– Тут няма адназначнага адказу. З аднаго боку, вядома, гэта так. Але з іншага – не кожны храм гатовы гучна гаварыць аб тым, што ў ім захоўваецца нешта каштоўнае. Мы добра ведаем выпадкі, калі абразы кралі пасля таго, як іх абмяркоўвала грамадскасць.

**– Чаму такія крадзяжы застаюцца праблемай?**

– Не ўсім людзям хапае духоўнасці. Многіх, на жаль, больш цікавяць матэрыяльныя рэчы, таму яны гатовыя ісці на такія ўчынкі.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

Фота: grodno.by.

**Абраз святога Іосіфа з немаўляткам Хрыстом Ян Дамель намаляваў у 1811 годзе ў Вільні.**

## Для беларусаў гэты абраз важны

Пра тое, якую вартасць мае праца Яна Дамеля, патлумачыў беларускі мастацтвазнаўца **Аляксандр Ярашэвіч**:

– Гэта не Рубенс, але для беларусаў, для гістарычнай Віленшчыны працы, безумоўна, маюць і гістарычную, і мастацкую вартасць. У мяне была задума: раз на Беларусі ёсць дзве працы Яна Дамеля, чаму б іх не выставіць адначасова? На шляху, калі абраз будуць вяртаць у Вішнева, чаму яго не затрымаць на нейкі час у Нацыянальным мастацкім музеі, у адным пакоі з абразам святой Канстанцыі.

Гэты абраз трапіў у музей у 1939 годзе разам з партрэтамі Радзівілаў. Яго пісалі для касцёла, але ён падаўся залішне свецкім, таму месціўся ў замку.

Творы Яна Дамеля захоўваюцца ў мастацкіх музеях Вільні і Варшавы.

ЭКАЛОГІЯ

# Увялі новыя правілы добраўпарадкавання

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад пятага лютага ўступілі ў дзеянне правілы добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў.**

Кантроль за іх выкананнем ускладзены на спецыялістаў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Мінпрыроды, МУС, Міністэрства аховы здароўя, райвыканкамы.

### Правілы выгульвання сабак

Новыя правілы датычацца выгулу сабак, тэрыторый каля прыпаркаваных аўтамабіляў, што стаяць пры дамах, і барацьбы з пустазеллем.

Выгульваць сабак можна толькі пры наяўнасці прылад для ўборкі сабачых экскрэментаў (адходы жыццядзейнасці арганізма сабакі).

Уласнікі дамоў сядзібнага тыпу павінны ўтрымліваць сабак у вальерах, будаваць агароджы прысядзібнай тэрыторыі вышынёй не менш за 1,7 метра.

### Правілы ўборкі каля транспартных сродкаў

Неэксплуатаваны транспартны сродак будзе падлягаць прымусовай эвакуацыі.

Уласнік транспартнага сродку павінен штодзённа ачышчаць тэрыторыю ад пяску ці снегу вакол прыпаркаванага аўтамабіля, які стаіць ля дома, на адлегласці аднаго метра.

### Уборка прылеглай тэрыторыі

Як паведаміў загадчык аддзялення камунальнай гігіены **Міхаіл Міхалевіч**, уласнікі аб'ектаў дробнароздзнічнага гандлю павінны ажыццяўляць уборку прылеглай тэрыторыі ў радыусе пяці метраў і адасобленых пад'язных шляхоў да іх.

Гэтыя правілы распаўсюджваюцца і на тэрыторыі, на якіх ажыццяўляецца дзейнасць у сферы грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання.


Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Кіроўцы самі мусяць чысціць снег каля машыны.

Уладальнікі аўтазапраўчных станцый павінны прыбіраць тэрыторыю ў радыусе ад 15 да 100 метраў.

### Будзе накладацца штраф

Штодзённы кантроль за станам тэрыторый горада Маладзечна і Маладзечанскага раёна ўжо праводзіцца.

Не праведзеная санітарная ачыстка і ўборка ў радыусе пяці метраў тэрыторый на гандлёвых аб'ектах "Гандаль Майстар-Груп", гандлёвага аб'екта ІП "Русецкая", ТАА "Трыбін", "БелБаВіт", "Дзем-Фэл" і ТАА "Разам з Вамі". На прылеглых тэрыторыях гандлёвых аб'ектаў "Гардэн" і "Поры года" не ўстаноўленыя скрыні, не праводзіцца ўборка снежна-ледзяных утварэнняў.

Парушэнне правілаў добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў цягне накладанне штрафу ад 0,1 да 25 базавых велічынь на фізічную асобу, ад 10 да 25 – на індывідуальных прадпрымальнікаў і ад 20 да 100 – на юрыдычную асобу.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

ЛІТАРАТУРНЫЯ СУСТРЭЧЫ

## Зачытаюць Эдгара По і Тувэ Янсан па-беларуску

**МАЛАДЗЕЧНА. Сустрэча адбудзецца ў аўторак, 19 лютага. Пачатак а 17 гадзіне.**

Падчас яе **Алеся Башарымава** зачытае свой пераклад з кнігі шведскай пісьменніцы Тувэ Янсан "Капялюш чарадзея".

**Ганна Янкута** зачытае пераклад з кнігі "Маска чырвонае смерці" Эдгара Алана По. Гэтая кніга выдадзеная ў 2011 годзе і стала першым перакладам амерыканскага "змрочнага" пісьменніка на беларускую мову. Глядачы пачуюць таксама пераклады з англійскай і нідэрландскай паэзіі.

Пісьменнік **Павел Анціпаў** зачытае ўрывак з кнігі "Дыпломная работа", надрукаванай у 2011 годзе, а таксама распавядзе пра прэмію Ежы Гедройца і маладую рускамоўную літаратуру Беларусі.

Госці даведаюцца пра дзейнасць часопіса перакладной літаратуры "Прайдзісвет", паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**.

## Маладзечанцы сустрэнуцца з Наталляй Батраковай

**МАЛАДЗЕЧНА. Імпрэза адбудзецца ў пятніцу, 15 лютага, а 17 гадзіне.**



Наталля Батракова будзе прэзентаваць сваю кнігу "Імгненне бясконцасці" выдавецтва "Рэгістр".

– У нашай бібліятэцы чатыры асобнікі гэтай кнігі, але немагчыма адразу ўзяць, настолькі кніга карыстаецца попытам, – паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**.

"РГ" паведамляла раней, што самая папулярная кніга 2012 года – жаночы раман "Імгненне бясконцасці" беларускай пісьменніцы Наталлі Батраковай. У чарзе, каб узяць яе, стаяла 46 чалавек.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

СУСТРЭЧЫ

## На Нарачы абмеркавалі культурныя ландшафты

**МЯДЗЕЛ. 7 і 8 лютага ў Нацыянальным парку "Нарачанскі" адбылася экспертная сустрэча "Культурныя ландшафты - багацце народа і фактар "нацыянальнай ідэнтычнасці".**

Прайшла яна ў межах міжнароднага праекта "Культурныя ландшафты: традыцыі для развіцця". Нацыянальны парк "Нарачанскі" другі год з'яўляецца ўдзельнікам гэтага праекта, які фінансуецца Еўрапейскім саюзам.

У сустрэчы прынялі ўдзел больш за сорак чалавек з Расіі і Беларусі. Гэта прадстаўнікі нацыянальных паркаў, запаведнікаў, музеяў пад адкрытым небам, міністэрстваў, мясцовай улады, эксперты, навукоўцы. З краіны-суседкі прыехалі 11 чалавек, у тым ліку дырэктары расійскага ЭкаЦэнтра "Запаведнікі" Наталля Даніліна і расійскага навукова-даследчага інстытута культурнай і прыроднай спадчыны Юры Вядзенін.

У першы дзень наладзілі экскурсію, падчас якой госці наведалі славутыя мясціны рэгіёна: сядзібы ў Камарове і Шэметаве, храмы, прайшлі па экалагічнай сцежцы прыроднага комплексу "Блакітныя азёры".

Назаўтра ў эколагаасветніцкім цэнтры адбылася экспертная сустрэча, падчас якой удзельнікі абмяняліся меркаваннямі наконт эфектыўнага выкарыстання і захавання культурных ландшафтаў. Удзельнічаў у дыскусіі і мастак **Барыс Цітовіч** з Вілейшчыны. Ён узняў тэму захавання памяці загінуўшых салдат Першай сусветнай вайны.

– Падобная экспертная сустрэча была для нас вельмі важная і карысная, – паведаміў намеснік генеральнага дырэктара НП "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валерый Люштык**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ХАРЧАВАННЕ

# Спецыі – парфума для любых страў і напояў

**МАЛАДЗЕЧНА. Уявіць сваё паўсядзённае харчаванне без спецый і прыпраў наўрад ці магчыма. Іх выбар на беларускім рынку павялічваецца з году ў год. Як прыправы могуць змяніць наш погляд на ежу?**

Зарыентавацца ў свеце спецый нам дапамагае гандлярка маладзечанскага калгаснага рынку **Ганна Ленгінаўна**. Ужо каля трынаццаці гадоў яна займаецца прыправамі, таму ахвотна дзеліцца з "Рэгіянальнай газетай" сакрэтамі іх ужывання.

## Людзі хочуць ведаць, што набываюць

Прыправы карыстаюцца попытам у маладзечанцаў. Падчас нашай размовы са спадарыняй Ганнай ледзь не кожную хвіліну да яе падыходзілі пакупнікі.

– Я заўважаю, што нашы людзі прыслухоўваюцца да парадаў газет і тэлебачання, – дзеліцца назіраннямі гандлярка. – Калі ў часопісе напісана, што нейкая прыправа карысная ці дапамагае пры пэўным захворванні, я ведаю, што трэба яе больш закупіць. Людзі адразу прыйдуць па прыправу – праверана на ўласным досведзе.

Да таго ж пакупнікоў цікавіць і склад спецый. Яго чытаюць уважліва і звяртаюць увагу на фарбавальнікі і араматызатары. З асцярогай ставяцца да ўзмацняльніка Е621 (глютанат натрыю) і стараюцца не набываць прыправы, у складзе якіх ён ёсць.

Асаблівa ахвотна бяруць зеляніну – яна падыходзіць да большасці страў. Бяруць і спецыі, адмыслова падрыхтаваныя да пэўных прадуктаў: фаршу, кілбасаў ці перцаў.

## Імбір карысны ў любым выглядзе

Папулярнасць у маладзечанцаў набывае імбір. Цяпер яго можна набыць свежым, марынаваным і зацукраваным, а таксама ў выглядзе парашку.

– У марынаваным выглядзе імбір добра дадаваць да рыбы ці мяса, – кажа спадарыня Ганна. – Я сама дадаю яго ва ўсё, нават у яешню. Ведаю, што некаторыя людзі ядуць марынаваны імбір проста так.

Імбір у парашку можна сыпаць у гарбату, каву і малако. Асабліва карысны імбір падчас зімовых захворванняў: ён валодае супрацьзапаленчымі ўласцівасцямі. Парашок выкарыстоўваюць таксама для інгаляцый.

Зацукраваны імбір можна есці ўпрыкуску з кавай і гарбатай. Можна выкарыстоўваць і як цукаты: вялікая колькасць цукру хавае вострыя смак імбіру.

Свежы корань імбіру дадаюць у стравы і салаты. Трэба памятаць, што корань хутка сохне і губляе свае ўласцівасці, таму выбіраць яго трэба ўважліва.

## Ванільны цукар лёгка зрабіць самім

Не так даўно на беларускім рынку з'явілася ваніль у стручках. Але папулярнасці ў нашым рэгіёне яна пакуль не набыла.

– Стручкі набываюць рэдка, – кажа гандлярка. – Людзі проста не ведаюць, што з імі можна рабіць. Да такога прадукту не ўсе гатовыя.

Пры дапамозе аднаго стручка ванілі можна прыгатаваць адразу некалькі страў. Мякаць і насенне можна дадаваць у салодкія стравы, напрыклад, крэм-брулe. А сам стручок варта пакласці ў шклянку з цукрам. Ужо праз некалькі дзён вы атрымаеце пахучы ванільны цукар і дакладна будзеце ведаць, што ён натуральнага паходжання.

Стручкі для продажу спецыяльна захоўваюцца ў шкляных прабірках: гэта дапамагае захаваць пах і свежасць. Кошт адной упакоўкі – 19 тысяч рублёў.

## Кава з кардамонам для гурманаў

Тым, хто любіць піць каву ці гарбату з прыправамі, гандлярка раіць пакаштаваць кардамон. Адну каробачку прыправы можна расцерці пальцамі, высыпаўшы дробнае насенне ў кубак.

Кардамон надасць каве ці гарбаце насычаны пах. А новае адценне смаку адчуецца ўжо пасля таго, як зробіш глыток. Кава з кардамонам стварае асаблівую атмасферу, добрую для сустрэч і размоў.

## Марцыпанавыя кветкі – і модна, і прыгожа

На прылаўку з разнастайнымі сыпучымі прыправамі адразу ў вочы кідаюцца каляровыя ружы і пялёсткі для ўпрыгожвання выпечкі. Дэкаратыўныя кветкі зробленыя з марцыпана: яны не толькі радуюць вока, але і прыдатныя да ежы.

– Цяпер ўпрыгожваць пірагі і торты марцыпанавымі ружамі вельмі модна, – кажа спадарыня Ганна. – Некаторыя набываюць іх у гатовым выглядзе. А некаторыя шукаюць неабходныя інгрэдыенты і спрабуюць рабіць кветкі самастойна. Справа гэта не з лёгкіх: тут патрэбныя і спецыяльныя формачкі, і якасныя прадукты, і ўмелыя рукі.

Кошты на марцыпанавыя ўпрыгажэнні пачынаюцца ад 10 тысяч рублёў.

## Эмульсіі – парфума для страў

Добры спосаб дадаць насычаны пах стравам і напоям – набыць эмульсію з неабходным пахам. Іх выбар задаволіць самага пераборлівага пакупніка: мята, міндаль, апельсін, ром, ваніль, шакалад і многія іншыя.

Дадаюць іх не толькі ў салодкія стравы. Асаблівым попытам восенню карыстаецца эмульсія з водарам ананаса: яе выкарыстоўваюць пры кансервацыі кабачкоў. Тады кабачок ад сапраўднага ананаса адрозніць проста немагчыма!

Эмульсіі робяцца на аснове алею з дадаткам натуральных араматызатараў. Маладзечанцы набываюць іх не вельмі актыўна: відаць, імкнуцца захаваць натуральны пах прадуктаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

| Курсы валют НБ РБ | 7.02 руб. | 14.02 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 8 680.00 | **8 650.00** |
| Еўра | 11 770.00 | **11 630.00** |
| Злоты | 2 812.47 | **2 793.48** |
| Літ | 3 403.12 | **3 371.07** |
| Расійскі рубель | 289.50 | **287.50** |
| Грыўня | 1 065.88 | **1 067.24** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8640/8690 | **8620/8660** |
| Еўра | 11650 /11790 | **11580/11700** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 6.02 | 13.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 111750 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 44950 | **43750** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 50000 | **50000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 88000 | **88000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 25900 | **23500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 22850 | **23800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32900 | **18900** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **81000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10700 | **10700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9950 | **9950** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10100 | **10100** |
| **Алей** | 16400 | **16600** |
| **Маянэз**, 200 г | 4800 | **4700** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7900 | **7790** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9600 | **9200** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 4000 | **3800** |
| **Капуста**, 1 кг | 4000 | **3800** |
| **Морква**, 1 кг | 3800 | **4000** |
| **Буракі**, 1 кг | 3500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 18500 | **18000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15900 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 16000 | **17000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 27000 | **24000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 29000 | **28000** |
| **Перац**, 1 кг | 33000 | **33000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 23000 | **40000** |
| **Бананы**, 1 кг | 15500 | **13600** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 6000 | **8000** |
| **Грушы**, 1 кг | 18000 | **19000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 34000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 18000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **58000** |
| **Бульба**, 1 кг | 2000 | **2000** |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **60000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД



Фота pokaz-johnson-dwayne-rewolwer.nago.net.pl.

Кадр з фільма “Фарсаж 5”.

# Пагоня з пісталетам у Куранцы

**ВІЛЕЙКА. Другога снежня ў гадзіну ночы ў вёсцы Куранец пачалася пагоня.**

Кіроўца “Мазды” пад’ехаў да вясковага Дома культуры і пасігналіў, каб яму далі праехаць. Нецвярозаму 30-гадоваму жыхару Вілейкі Сяргею Івашкевічу, які якраз стаяў на дарозе побач з машынай, што таксама не давала праехаць, гэта не спадабалася.

Ён дастаў з-пад пасажырскага крэсла пнеўматычны пісталет і балончык са сціснутым паветрам і пачаў пагражаць кіроўцу на вачах у маладзёнаў, якія стаялі непадалёк. Кіроўца не захацеў высвятляць адносін і вырашыў хуценька з’ехаць.

Івашкевіча гэта раззлавала. Ён скочыў у сваю машыну, за рулём якой быў бацька, і сказаў, што ім трэба дагнаць “Мазду”, у якой быццам бы едзе знаёмы.

Ён гнаўся за сваім “крыўднікам” аж да самай Вілейкі. Там “Мазда” спынілася на аўтастаянцы на плошчы Леніна. Івашкевіч таксама стаў, выйшаў з машыны і зноў падышоў да кіроўцы ды накіраваў пісталет у яго бок. У машыне ён убачыў на заднім сядзенні дзвюх дзяўчат.

“Мазда” зноў крануліся з месца і паспяшалася з’ехаць.

Пасля гэтага мужчына супакоіўся і папрасіў бацьку адвезці яго ў бар “Дубочак” за півам. Потым яны вярнуліся на стаянку каля плошчы Леніна, дзе іх ужо чакала міліцыя.

Івашкевіч прызнаў сваю віну цалкам.

Ужо потым стала вядома, што ў пісталеце не было ні газавага балончыка, ні куляў. І мужчына пра гэта ведаў.

Суд прызначыў яму штраф у 20 мільёнаў рублёў.

Пісталет вырашылі знішчыць.

**Віктар ГАТОЎКА,**
**памочнік пракурора Вілейскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Як кіроўцам пазбегнуць аварый у галалёд

**ВАЛОЖЫН. Калі на дарозе галалёд, саўладаць з рухам свайго аўтамабіля пад сілу не кожнаму кіроўцу.**

Як захаваць машыну, а разам з ёй здароўе і жыццё, паведаміў начальнік аддзела ДАІ Валожынскага раённага аддзела ўнутраных спраў **Міхаіл Ліштван**:

– На дарозе слізка, часам снег перашкаджае бачнасці. Кіроўцы тармозяць – машыну заносіць, паварочваюць – зноўку заносіць.

На выхадныя сур’ёзных аварый у Валожыне не было, але дробязныя пашкоджанні здараліся.

– Часцей за ўсё, здаецца, мужчыны трапляюць у надзвычайныя сітуацыі. Ды толькі на гэтых выхадных было не так, – дадае Міхаіл. – Злавілі п’яную кіроўцу-жанчыну, утрыманне алкаголю ў крыві якой было тры с паловай праміле, што амаль у 12 разоў больш за норму (0,3 праміле).

Часцей за ўсё не спраўляюцца з кіраваннем машыны вадзіцелі са стажам да трох-пяці гадоў.

Каб не трапіць у непрыемную сітуацыю ў зімовае надвор'е, начальнік аддзела даў некалькі парадаў кіроўцам:

– Улічвайце ўмовы надвор’я. Калі сіноптыкі абяцаюць снегапад, на наступны дзень – пацяпленне, а потым мароз, то тут і без сіноптыкаў вядома, што гэта да галалёду.

– Памятайце пра дыстанцыю да папярэдніх аўтасродкаў. А таксама тармазіце загадзя.

– Паколькі, разагнаўшыся ў галалёд, ні вам, ні аўтамабілю не пад сілу адразу спыніцца, рэгулюйце хуткасць у адпаведнасці са здаровым сэнсам.

– Саграваўцеся пры дапамозе аўтамабільнай печкі ды гарбаты ў тэрмасе. Ні ў якім разе не ўжывайце моцных напояў. Начальнік аддзела па сакрэце сказаў, што ДАІ цяпер нацэленая на выяўленне нецвярозых кіроўцаў.

Будзьце пільныя!

**Ганна ФІЛІСТОВІЧ,**
**школа маладога журналіста.**



УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць за здзяйсненне цяжкага злачынства

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел міліцыі за здзяйсненне цяжкага злачынства шукае раней неаднаразова судзімага грамадзяніна Уладзіміра Віктаравіча Завадскага.**



Уладзімір Завадскі.

Ён нарадзіўся 1 студзеня 1983 года. Жыў у вёсцы Еленка Маладзечанскага раёна.

Яго прыкметы: на выгляд 30-35 гадоў, рост 170-175, хударлявага жылістага целаскладу, коратка падстрыжаны.

Быў апрануты: на галаве цёмная бейсболка, балонневая цёмная куртка, цёмныя красоўкі.

Перакануўча просім усіх, хто што-небудзь ведае аб месцы знаходжання злачынцы, якога шукаюць, паведаміць у райаддзел міліцыі.

Тэлефоны: **8(0176) 74-96-83, 8(0176) 77-03-12, 8(0176) 77-16-56** ці ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэлефоне 102.

**Андрэй КАВАЛЁНАК,**
**оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі, старшы лейтэнант міліцыі.**

СЛУЖБА 101

## Суседка выявіла пажар дзякуючы шуму

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 9 лютага, гарэла кватэра ў чатырохпавярховым доме па вуліцы 1 Мая.**

Як паведаміў інспектар інспекцыі дзяржаўнага пажарнага нагляду **Дзмітры Кляшчук**, кампанія людзей выпівала прыкладна тыдзень.

У суботу пад раніцу суседка знізу, не вытрымаўшы шуму, паднялася на чацверты паверх. Дзверы былі зачыненыя, а праз іх лез дым. Яна не разгубілася і патэлефанавала ў міліцыю.

– Адтуль ужо паведамілі нам, – расказвае інспектар. – Калі прыехалі выратавальнікі, гарэла пасцельная бялізна.

Агнём пашкоджаныя сцены і падлога. Жыхары не пацярпелі.

Прычына ўзнікнення пажару – курэнне ў нецвярозым стане.

**Ганна ФІЛІСТОВІЧ,**
**школа маладога журналіста.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Мікрааўтобус трапіў пад фуру. Шасцёра пацярпелых

**АШМЯНЫ. Аварыя здарылася 11 лютага каля 15.30 на трасе Мінск – Ашмяны – мяжа Літвы.**

Як паведаміў начальнік аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ Гродна і Гродзенскай вобласці **Яўген Дудко**, мікрааўтобус з расійскімі нумарамі вёз з Літвы беларускіх дальнабойшчыкаў. Калі ён выязджаў з другараднай паласы на галоўную, не прапусціў фуру з мінскімі нумарамі. Адбылося франтальнае сутыкненне. Да таго ж і асфальт быў мокры.

Цяпер чатыры пасажыры мікрааўтобуса з пераломамі шпіталізаваныя. Кіроўцу і яшчэ аднаму пасажыру аказаная медыцынская дапамога.

**Настасся РОЎДА.**

## Не дапускайце п’янства за рулём

**МІНШЧЫНА. Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці ад 13 да 18 лютага праводзіць прафілактычную акцыю “Цвярозы кіроўца”.**

Мэта акцыі – прадухіленне фактаў кіравання транспартам у стане алкагольнага ап’янення як аднай з асноўных прычын дарожна-транспартных здарэнняў з цяжкімі наступствамі.

Калі вы сталі сведкам ці відавочцам кіравання транспартам у стане алкагольнага ап’янення, просім паведаміць па тэлефоне **8(0176) 77-16-56** ці GSM **102**.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

ТРАДЫЦЫІ

# Новы год па-в'етнамску



Фота забяспечыў Фам Дык Хунг.

Замест ёлачкі на Новы год – імправізаваная галінка абрыкосавага дрэва.



Фота забяспечыў Фам Дык Хунг.

Пірог баньчынг – абавязковая страва пры святкаванні Тэта. Ён бярэ свой пачатак 3-4 стагоддзі таму назад.

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінулыя выхадныя, 9-10 лютага, былі звычайнымі для большасці маладзечанцаў. Але ў некаторыя кватэры на гэтыя два дні завітала свята. В'етнамская дыяспара горада адзначала Новы год па Усходнім календары.**

Таямніцамі святкавання Новага года па в'етнамскіх традыцыях з "Рэгіянальнай газетай" падзяліўся навучэнец-першакурснік **Фам Дык Хунг**.

Ён жыве ў Маладзечне ужо пяць гадоў. За гэты час паспеў павучыцца ў беларускай школе, а цяпер вучыцца ў маладзечанскім прафесійна-тэхнічным каледжы. Праз два з паловай гады Фам Дык Хунг стане дыпламаваным тынкоўшчыкам-плітачнікам.

### Абрыкосавае дрэва замест ёлкі

У кожнага в'етнамца, які жыве ў нашай краіне, крыху больш святаў, чым у звычайнага беларуса. Напрыклад, Новы год адзначаецца двойчы: і ў ноч на 1 студзеня, і ў першы дзень першага месяца па месяцавым календары ў першы сезон новага года.

Гэтае свята называюць Тэт Нгуен Дан, што значыць Свята Першага Дня ці Тэт Там Нгуен – Свята Трох Першых. Свята рухомае – прыпадае, паводле месяцавага календара, на дзень ад 20 студзеня да 20 лютага. Сёлета Новы год па ўсходнім календары адзначалі 10 лютага.

– Беларускі Новы год для нас не вельмі маштабнае свята, – гаворыць Фам Дык Хунг. – Мы, як і беларусы, упрыгожваем ёлку агеньчыкамі і цацкамі. Звычайна ёлка ў нас штучная. 31 снежня мы проста збіраемся разам за святочным сталом і не дорым адзін аднаму падарункі.

А вось Новы год па Усходнім календары в'етнамцы адзначаюць дружна, збіраючыся ўсёй раднёй. Тэт – гэта час, калі збіраецца ўся сям'я, а дае далучаюцца продкі. Абавязковы атрыбут традыцыйнага свята – абрыкосавае ці персікавае дрэўца. Паколькі абрыкосы ў Беларусі не растуць, в'етнамцам даводзіцца імправізаваць.

– Звычайна мы бяром яблыневыя галінкі і ставім іх у ваду, – гаворыць Хунг. – Упрыгожваем таксама па-свойму: робім з каляровай паперы адмысловыя кветкі ў тэхніцы арыгамі.

### Новы год без Дзеда Мароза

Яшчэ адна адметнасць в'етнамскага свята заключаецца ў тым, што ў гэтага народа няма навагодняга казачнага персанажа. Таму і няма традыцыі класці падарункі пад абрыкосавае дрэўца.

– У нас не такая зіма, як у Беларусі, – заўважае Фам Дык Хунг. – Зімой у В'етнаме такое ж надвор'е, як тут вясной. Таму і Дзеда Мароза ў нас няма. Бацькі самі дораць падарункі сваім дзецям. Па в'етнамскіх традыцыях звычайна гэта грошы ў чырвоных мяшэчках.

### Дадому – раз на пяць гадоў

Адзначыць святы на радзіме – рэдкае шчасце для беларускіх в'етнамцаў. Дабрацца з Беларусі да В'етнама можна толькі самалётам.

– Апошні раз я была дома тры гады таму, – кажа гандлярка-в'етнамка з маладзечанскага рынку райспажыўтаварыства, якая прадстаўлялася **Аняй**. – Білеты дарагія, ляцець трэба з перасадкай ў Маскве. Дарога туды і назад каштуе 1200 даляраў.

Гандлярка жыве ў Беларусі ўжо 25 гадоў. Першыя сем жыла ў Жодзіне, цяпер – у Маладзечне. Тут нарадзіла дзіця. Хлопчык скончыў беларускую школу і цяпер вучыцца ва ўніверсітэце ў Мінску.

– Куды еду – я не вельмі ўяўляла. У тыя часы быў Савецкі Саюз, таму пра Беларусь чула няшмат, – заўважае Аня. – Складана было з мовай. Я вучыла яе тры месяцы перад ад'ездам. Менавіта з-за моўнай перашкоды большасць в'етнамцаў у Беларусі працуюць у гандлі. Працаваць можна і не валодаючы мовай дасканала.

У Маладзечне в'етнамцы ведаюць адзін аднаго, збіраюцца разам на нацыянальныя святы. Пры гэтым абавязкова в'етнамскія гаспадыні гатуюць традыцыйныя стравы сваёй кухні.

### Святочны стол па-в'етнамску: баньба і лім

Кухня ўсіх усходніх народаў – гэта нязменныя марскія прадукты. Таму в'етнамцам даводзіцца крыху прыстасоўвацца да беларускай ежы.

– Жывучы тут, мы таксама стараемся есці больш рыбы і гародніны, безумоўна, асноўная страва – рыс, – кажа Аня. – І не ядзім так шмат малочных прадуктаў, як беларусы.

Студэнт Фам Дык Хунг ужо неаднойчы частаваў сваіх беларускіх сяброў і аднагрупнікаў нацыянальнымі стравамі. Нагода для гэтага знойдзецца заўжды – ці Новы год, ці дзень нараджэння, ці іншае беларускае або в'етнамскае свята.

– Звычайна мы робім адмысловыя запечаныя булачкі з мясам, – гаворыць Хунг. – Яны называюцца баньба. Цеста пры гатаванні складваецца ў выглядзе канверта. А запечаныя булачкі з мясам і макаронай – гэта лім. Іх мы таксама гатуем на розныя святы.

**Аляксандра ПАРАХНЯ, Зоя ХРУЦКАЯ.**

КОНКУРСЫ

## Унук Анатоля Рогача перамог на конкурсе юных даследчыкаў

**ВІЛЕЙКА. 9 лютага ў СШ № 3 сабраліся юныя даследчыкі.**

Тут прайшлі раённы фестываль даследчых работ дашкольнікаў і конкурс даследчых работ малодшых школьнікаў "Я – даследчык".

У секцыі "Прыродазнаўства. Жывая прырода" журы прызнала пераможцай вучаніцу 3 класа гімназіі №1 "Логас" **Яўгенію Рамановіч**, у секцыі "Прыродазнаўства. Нежывая прырода" – вучаніцу 4 класа СШ №3 **Дар'ю Мароз**. У секцыі "Матэматыка, фізіка, тэхніка" перамог другакласнік гімназіі №1 "Логас" **Арцём Кратовіч**, у секцыі "Гуманітарныя веды " – вучань 4 класа гімназіі №2 **Ілля Курыловіч**.

Ілья прадставіў працу "Краязнаўчыя пошукі майго дзядулі Анатоля Валянцінавіча Рогача" (кіраўнік – настаўніца пачатковых класаў **Лілія Цвярдоўская**).

– Цудоўная праца! – не хавае захаплення намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце гімназіі №2 **Марына Жарская**. – Ілля правёў вялікую падрыхтоўчую працу. Хлопчык з бацькамі выязджаў да помнікаў, якія з'явіліся ў Вілейскім раёне дзякуючы намаганням яго дзядулі. З дапамогай бацькоў вывучыў хатні архіў.

На абароне працы ў яго спыталі: "Што б параіў аднакласнікам, якія вырашаць заняцца краязнаўствам?". Ілля адказаў: "Параіў бы пачаць са свайго радаводу". А калі запыталі пра тое, чаму дзядуля столькі часу выдаткоўваў на краязнаўчую работу, то пачулі адказ: "Напэўна, таму, што ён вельмі любіў сваю Радзіму".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АНОНС

## У Астраўцы павіншуюць афганцаў

**АСТРАВЕЦ.** У пятніцу, 15 лютага, у канцэртнай зале пройдзе мерапрыемства, прысвечанае Дню памяці воінаў-інтэрнацыялістаў.

Мерапрыемства пачнецца а 11 гадзіне раніцы.

**Аддзел інфармацыі.**

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

**МУЗІНСТРУМЕНТЫ**

• Піяніна. Т. МТС (8-029) 8771998.*

• Бас-гітара з Германіі, чахол, 1 год б/у, 200 у.а. Т. (8-044) 7740731.

**МЭБЛЯ**

• Канапа-ложак, выдатны стан, б/у. Т. 744261.

• Кухня б/у, нядорага, Маладзечна. Т. (8-029) 5594146.

• Мэбля б/у ў добрым стане (прыхожая, стол камп'ютарны, камод, шафа 3-створкавая з антрэсоллю, тахта). Т. 758322, Вэлком (8-029) 3686441.

**ЖЫВЁЛА, ПТУШКА, ПЧОЛЫ**

• Кабан. Т. (8-029) 8546104, (8-0176) 763090.*

• Карова, Вілейскі р-н. Т. (8-01771) 45225.

• Маладая кароўка другім ацёлам на гадоўлю. Т. МТС (8-029) 7796575.

• Маладняк трусоў бельгійскі велікан, мяса трусоў. Т. (8-029) 7628438.*

• Парасяты в'етнамскай віслабрухай пароды, Вілейка. Т. (8-033) 6634420.

• Парасяты ў Вілейцы. Т. (8-033) 6029614.

• Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, узрост 6 месяцаў. Т. (8-029) 2782529.

• Шчанюкі таксы гладкашэрснай, чорныя, 70 у.а. Т. (8-029) 9376431.

• Шчанюкі ўсходне-еўрапейскай аўчаркі, акрас чапрачны, узрост 2 месяцы, зробленыя прышчэпкі. Т. (8-029) 5545688.

**ІНШАЕ**

• Шарсцяная пасцель новая (коўдра, наматрацнік, 4 падушкі) камплектам ці ў розніцу, выраб еўрапейскай кампаніі "Лама Голд". Т. (8-029) 5515977, (8-044) 4874024.

• Газавая гарэлка (новая), для абсмальвання свіней. У камплекце шланг і насадкі. Т. (8-033) 6358409.*

• Дыван 2х3, авальны, новы, тэлевізар Гарызонт б/у. Т. Вэлком (8-029) 3520117, 764236.*

• Каляска "Джып" у выдатным стане, нядорага. Т. (8-029) 2591429.

• Каляска джып-трансформер, перакідная ручка, спінка рэгулюецца трыма палажэннямі. У камплекце маскітная сетка, порхаўка, карзіна, калыска, сумка, можна зрабіць прагулачным варыянтам. Дыяна. Т. (8-044) 4881586.

• Лаза для пляцення кошыкаў, мэблі і г.д. розных памераў. Т. (8-029) 3878428.

• Ложак дзіцячы "ківач" са скрынямі для бялізны, матрац, манеж гульнявы, калыска дзіцячая модульнага тыпу, колер універсальны, Маладзечна. Т. 775146, (8-029) 3997088.

• Рэшткі колатых дроў (алешына, бяроза, асіна), танна. Т. МТС (8-033) 6318944.

• Свініна дамашняя. Т. (8-029) 8437869.

• Стэлажы абутковыя б/у для крамаў сэканд, сток ці іншых. Вешалкі. Т. (8-029) 8767997.

• Электрагрэлка Чараўніца, б/у, 400 тыс.руб., секцыя б/у, 2,30х1,85, 280 тыс.руб. Т. (8-029) 2558705.

## КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 6319537.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку**

• Асенізатар ГАЗ 53. Т. (8-044) 7372481.

• Трактар Т-25, Т-16 з дакументамі. Т. (8-029) 7071054, (8-029) 2500955.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• DDR 1, 1 GB, Samsung або Hynix. Т. (8-029) 6550799, slabada @tut.by.*

**Музінструменты**

• Домру трохструнную для заняткаў у музычнай школе. Т. МТС (8-029) 7737358.*

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**ЖЫВЁЛУ**

• Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• Балон кіслародны вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бярозавыя, дубовыя венікі ў лазню. Т. (8-029) 7613847.

• Лодку дзюралевую ў любым стане, снасці. Т. (8-0176) 706577.*

• Скуркі куніцы, чарнабуркі, пясца. Т. (8-029) 8552646.*

## ЗГУБЛЕНА

• 12.01.2013 у р-не в.Селішча згубіўся паляўнічы сабака ягдтэр'ер (маленькі, чорны). Таго, хто знайшоў, просьба вярнуць за ўзнагароду. Т. Вэлком (8-029) 3680931.

## ІНШАЕ

• Вазьму спадарожнікаў у Беласток. Т. Вэлком 6535627, МТС 5743335.

• Мы адчыніліся. "Сэканд Хэнд", г.Вілейка, вул.Кастрычніцкая, 32. УНП 691171741. Т. (8-033) 3139831.

• Сэканд хэнд Extra, оптам (адзенне, абутак), ад 4 еўра за кг. ЧТУП "Медзяніца". УНП 691395157. Т. (8-029) 8767997.

# ПРАЦА

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Арганізацыі патрабуецца бухгалтар, эканаміст (справавод). ТАА "МехБудТэхніка". УНП 191698107. Т. Вэлком (8-029) 6500767, МТС (8-029) 2788369.

• Арганізацыі ў п.Чысць патрабуецца кіроўца катэгорыі С, Е на гідраманіпулятар. ТАА "МехБудТэхніка". УНП 191698107. Т. Вэлком (8-029) 6500767, МТС (8-029) 2788369.

• Аўташколе "Ілан-аўто" патрабуецца майстар па навучанні кіраванню аўтамабілем. УНП 690614035. Т. (8-029) 8770011.*

• ДУА "Гарадзілаўская сярэдняя школа" патрабуецца вадзіцель катэгорыі Д для перавозкі дзяцей. УНП 601058167. Т. (8-0176) 725372, (8-029) 1295099.*

• Сялянскай гаспадарцы "Вулей" (Вілейскі р-н) патрабуецца механізатар з вопытам работы ў сельгасвытворчасці, аплата высокая. Без прадастаўлення жылля. Пасведчанне аб дзярж.рэг. №503 ад 2002/07/23 г. УНП 600008888. Т. (8-029) 9864742.

• ТАА "СмаргоньІнвестБудПраект" патрабуецца на пастаянную працу архітэктар, інжынер-каштарыснік (сметчик). г.Смаргонь, вул.Савецкая, 21, офіс 8. Т. (8-01592) 35555, (8-029) 3539276, (8-044) 5592175.

• У магазін "Прадукты" патрабуецца прадавец (зарплата ад 3,8 млн.руб.), прыбіральшчыца (зарплата ад 2,8 млн.руб) Сядзіба "Астапаўскай-Субач". УНП 690612563. Т. 752503, Вэлком (8-029) 6662449.*

СПАДЧЫНА

# Інвестар ратуе панскі бровар у Стайках

**ВІЛЕЙКА. Сядзібу ў Стайках, якую пачаў будаваць Тадэвуш Багдановіч у 18 стагоддзі, хоча інвеставаць замежная кампанія "ТракЦэнтр "Азярцо".**


Фота Аксаны ВОЛКАВАЙ.

**Бровар, гісторыка-культурная каштоўнасць, разбураецца, а інвестар, які хоча яго адрэстаўраваць, не можа атрымаць на гэта юрыдычнае права.**

Сядзіба мела бровар, стайню, цудоўны парк з сажалкамі. Цяпер ад гэтага амаль нічога не засталося.

А інвестар, чые інтарэсы прадстаўляе намеснік дырэктара **Аксана Волкава**, не можа прыступіць да аднаўлення ўсёй сядзібы, пакуль не вырашыць пытанні з дакументацыяй.

Аксана Волкава патлумачыла для "РГ" сітуацыю з броварам у Стайках.

– Мы ўжо распачалі рэстаўрацыю бровара, падключыўшы спецыялістаў з Міністэрства культуры. Там ідуць першачарговыя супрацьаварыйныя работы і рыхтуецца на зацвярджэнне будаўнічы праект бровара.

Аднак толькі бровар нам аддалі пад інвестыцыйны праект "Аднаўленне будынка збожжасклада (рэшткі бровара), які ўваходзіць у склад былой сядзібы Багдановічаў "Двор Стайкі", і стварэнне на яго базе канцэртна-выставачнага комплексу па дамове бязвыплатнага карыстання. А ўвесь комплекс, які ўключае фрагменты парку, воднай сістэмы, рэшткі склепа, стайні і тока мы не змаглі пакуль увесці ў гэты праект. Спрабуем зрабіць гэта цяпер.

Таму па заказе "ТракЦэнтра "Азярцо" архітэктар распрацаваў праект зон аховы рэштkaў сядзібы, каб забяспечыць іх ахову.

Распрацавалі і праект, які цяпер разглядаюць у Мінаблвыканкаме. Ён прадугледжвае захоўванне цэласнасці ландшафту і прыроднага асяроддзя гісторыка-культурнай каштоўнасці і ўключэнне яе ў сферу сучаснага культурнага і эканамічнага жыцця Беларусі.

Спадзяёмся адрэстаўраваць бровар у першую чаргу і другім этапам перайсці да рэстаўрацыі ўсёй сядзібы.

**– Чым бровар прыцягвае інвестара?**

– Тым, чым і любога чалавека, які цэніць сваю спадчыну. Там неверагодна прыгожа. Месца проста зараджанае энергіяй!

**– Як будзе выглядаць завершаны праект?**

– Туды будуць прыязджаць госці на выязныя мерапрыемствы: канферэнцыі, банкеты, вяселлі. Прымаць плануем каля ста гасцей. Беларусы для канферэнцый наймаюць гасцініцы ў Тракайскім раёне Літвы. А мы хочам зрабіць такую пляцоўку тут, і каб якасць не саступала.

Тут будзе бяспечна, зручна і спакойна – як некалі ў гасцях у пана. Нібы ты прыйшоў у госці да вельмі гасціннага чалавека, у якога можаш атрымаць усё, што захочаш.

Праект разбіты на дзве часткі. Спачатку запрацуе бровар. У ім будзе зала, у якой можна ладзіць, напрыклад, канферэнцыі. А пасля адкрыем гасцінічны комплекс, гэта цалкам новы будынак.

Кухня будзе прыязджаць. Будзем карыстацца кітынгам – выязной паслугай на прыгатаванне ежы. Прыязджае рэстаран са сваім наборам страў, поварам, мыйшчыкам посуду, і яны абслугоўваюць мерапрыемства.

Мы пастараемся задзейнічаць у рабоце людзей з Вілейкі, але кажуць, што ў вас з работнікамі цяжка. Бо нам трэба людзі, якія абазнаныя ў гасцінічным бізнесе.

Яшчэ, трошкі пазней, хочам арганізаваць пляцоўку на 200 чалавек, дзе можна будзе ладзіць фестывалі. Яе мяркуем размясціць паміж броварам і гасцініцай, ля сажалак.

**– Для жыхароў пасля з'яўлення бровара штосьці зменіцца?**

– Я спадзяюся, што зменіцца. Цяпер вёскі вымiраюць, а раптам дзякуючы комплексу ў Стайкі прыедзе моладзь. Яна прыедзе, калі будзе праца, а праца там будзе.

**– Наколькі будзе зменены бровар?**

– Тры прыгожыя крылы, якія захаваліся, застануцца цалкам не зменены, але аднаўлены. Ззаду сцены разбураныя, але застаўся падмурак. На яго месцы адновім прыбудовы. Зрабіць усім дакладна, як было пры пану, з каменя і цэглы таго часу, мы не зможам. Таму тую частку дапоўнім ці дрэвам, ці тынкоўкай, каб не было дысанансу з асноўнай часткай будынка. У нас будзе сапраўдная чарапіца, яна цяжкая, таму ўмацавалі сцены бровара. А ўнутры – цалкам сучасная начынка для зручнасці гасцей.

Дарэчы, наш рэстаўратар – **Вадзім Глінік**. Ён займаўся рэстаўрацыяй гістарычнага цэнтра Полацка.

**– Чаму гэта месца будзе прыцягваць кліентаў?**

– Асаблівасць яго ў тым, што месца гістарычнае. Таму і асаблівае. Такіх месцаў мала. Гэтым яно і прыцягальнае. Проста пабудаваць любы можа. А інвестары – амбіцыйныя людзі.

Там і руіны прыгожыя, іх толькі ўпарадкаваць – і яны будуць вабіць.

Захаваліся стогадовыя лістоўніцы, некалькі відаў глогу, трэба толькі пазбавіцца ад пустазелля і смецця, якое звозілі і скідвалі ў панскі склеп, выкладзены зводамі.

**– Якія адносіны ў мясцовых да праекта?**

– Нехта падтрымлівае, хтосьці ўсміхаецца, калі прыязджаю, называюць мяне панначчай. Некаторыя вельмі спачуваюць чалавеку, які жыве побач з броварам, маўляў, багатыя хочуць яго выселіць.

Насамрэч гэта няпраўда. Каля бровара ёсць цудоўная сажалка, якая цяпер даведзеная проста да адчаю. Гаспадары таго часу імкнуліся навесці ў гэтым месцы прыгажосць. А што цяпер? Усюды бруд і раскіданае смецце, нейкая арматура, гаспадарчыя матэрыялы… Вельмі шкада.

**– Калі вы зможаце прыступіць да працы па добраўпарадкаванні?**

– Цяпер аб'ект паводле дагавора бязвыплатнага карыстання перададзены нам, каб мы выканалі ўмовы – пабудавалі канцэртна-выставачную залу ў бровары. І калі гэта будзе выканана, яго перададуць нам ва ўласнасць.

Да верасня 2014 бровар павінны быць гатовы. Мяркую, адкрыццё будзе 20 верасня.

А цяпер я яшчэ не магу прыйсці на гэтую тэрыторыю, каб яе ўпарадкаваць. Нашы рабочыя ачысцілі месца, сажалку, каб было прыемна тут працаваць.

Спадзяюся, райвыканкам будзе зацікаўлены ў гэтым праекце і дапаможа з афармленнем неабходных дакументаў пасля таго, як аблвыканкам прыме рашэнне.

Наступнай праблемай стане рабочая сіла. З навакольных вёсак людзі раз'ехаліся, таму што працы няма. І калі сюды прыедуць працаваць, спатрэбіцца прадугледзець месца, дзе яны могуць жыць.

Таму каля бровара мы задумалі паставіць лямус. Гэта будзе гаспадарчая пабудова для абслугоўвання бровар-залы, там размесцяцца пакоі для абслуговага персаналу, каб людзі маглі прыняць душ, пераначаваць. Там жа будзе ахова.

**У Беларусі лямус захаваўся ў Гродне. На старых здымках ён бачны ў Ганцуе.**

**– Валакіта з паперамі адбівае жаданне займацца праектам?**

– Рукі апускаюцца. Але я ўпэўненая, што аб'ект будзе цікавы. Сам будынак унікальны, і мы зробім яго прывабным, захаваўшы гістарычную каштоўнасць усяго комплексу.

**Даведка "РГ". Лямус** – двухпавярховы мураваны або драўляны будынак з арачнай галерэяй у два паверхі. Выкарыстоўваўся для захоўвання гаспадарчага інструмента, прадуктаў, у ім маглі жыць слугі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Успаміны валожынца Мікалая Махнача

*Працяг. Пачатак у №6.*

**ВАЛОЖЫН. Успаміны Мікалая Махнача, які ў 17 гадоў, у 1939-м, пакінуў родны Валожын і больш туды ўжо не вярнуўся. Цяпер ён жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі.**

Пераклад з польскай мовы зрабіла Яўгенія Чаплінская з вёскі Літва Маладзечанскага раёна, былая аднакласніца і тайная сімпатыя Мікалая Аляксандравіча.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Чорнай лініяй пазначаны на карце шлях, які давялося пераадолець Мікалаю Махначу.

### Работы па гаспадарцы

Пасвіць кароў было не так лёгка, бо жылі мы ў горадзе, а ворныя землі ляжалі за горадам, да таго ж падзеленыя на шэсць кавалкаў. Амаль не было пашы, акрамя пары яроў, што пакінуў у наваколлі Валожына ледавік. Таму каровы, пераважна па дзве, пасвіліся на павадках па палявых дарожках, межах і каля некалькіх кудзеркаў (невялікіх вузкіх участкаў лесу сярод поля – рэд.).

Вялікая паша была за Панізем, але яна найлепш служыла панізянам і часткова зарачанам, бо яны мелі туды найкарацейшую дарогу. А нам задалёка было летам ганяць дойных кароў. Таму гаспадары з Бандароў, Еўлашоў, Зарэцкай і Касцельнай вуліц ранняй вясной перад святым Міколам гналі разам кароў у табар пад Белакорац. Там яны пасвіліся аж да верасня.

Штодзень пад вечар нехта з кожнай сям'і ішоў у табар, каб падаіць кароў і прыцягнуць малако ў спецыяльных бляшаных збанах. Там і начавалі ў саламяных будках. Уставалі з усходам сонца, даілі кароў, малако ладавалі на воз, а самі побач з возам ішлі пешшу дахаты, недзе каля шасці кіламетраў. Хтосьці заставаўся пасвіць кароў.

Кожны "табарны" вечар пасля дойкі распальвалі вогнішча, садзіліся вакол і пяклі на пруціках сальца. Затым з жытнім хлебам апетытна елі і запівалі чысцюткай вадой з Іслачы, якая была ад нас за нейкія 150 метраў, або свежым, яшчэ цёплым малаком.

І хоць душа рвалася да гульні, але мала калі нагода такая траплялася. Толькі зімой быў трохі вольны час і можна было пакатацца на санках, лыжах ці каньках, драўляных, на адну нагу.

### Перамены

У 1934 годзе, у верасні, цяжка захварэў мой бацька і 31 кастрычніка памёр, маючы 50 гадоў. Мне тады было 11 гадоў, і я хадзіў у чацверты клас.

Для мяне абрынуўся свет. Але трэба было неяк жыць далей. Маці на наступны год нехта пазнаёміў з беззямельным мужчынам з трохгадовым хлопчыкам. Чалавекам ён аказаўся працавітым і пачцівым. А звалі яго Мікалай, сын яго таксама быў Мікалай. Так у нас стала тры Мікалаі. Калі маці клікала: "Коля!", мы ўсе трое адгукаліся. Потым маці вырашыла гэту праблему і стала называць нас так: вялікі Коля, мой Коля і малы Коля.

Без бацькавага нагляду я закінуў навуку і застаўся на другі год у чацвертым класе. Маці, як даведалася пра гэта, прыйшла да настаўніка Мікалая Глухоўскага, ён якраз быў школьным сябрам майго бацькі, і папрасіла, каб той заапекаваўся мной, як сваім сынам.

Глухоўскі быў вельмі добры настаўнік, але ў яго класе заўсёды панавала строгая дысцыпліна. Не дазваляў ніякіх шэптаў, падказак. Не раз крычаў: "Ты, осле дарданэльскі, малпа афрыканьска" і часам біў далонню па плячах. Але толькі хлапцоў. Мне аднойчы таксама папала, праўда, рэменем па мяккай частцы цела. Праўда, гэта дапамагло.

### Першае каханне

А ў 6 класе я ўзяў ды закахаўся ў адну з маіх аднакласніц – Геню Белановіч (Яўгенія Чаплінская, вёска Літва Маладзечанскага раёна – рэд.). Яна добра вучылася і была для мяне найпрыгажэйшай дзяўчынай не толькі ў нашай школе, але і ў цэлым павеце. Ніколі нікому і не прызнаўся пра свае пачуцці. Баяўся, што з мяне могуць насміхацца. Таму гэта засталося маёй асабістай таямніцай.

### Вікенці Вёнцэк, настаўнік ад Бога

Надышоў 1938-1939 навучальны год, і я пайшоў у 7 клас. За год да гэтага дырэктарам валожынскай паўшэхнай сямігадовай школы імя Стэфана Баторы стаў пан Вікенці Вёнцэк. Добры чалавек і сапраўдны настаўнік, як кажуць: "З Божай ласкі". Інтэлігентны, ветлівы, сапраўдны "дэмакрат". Да Валожына ён некалькі гадоў быў аташэ па культуры і адукацыі пры польскай амбасадзе ў Парыжы. Добра гаварыў па-французску. У класе было 48 вучняў: 25 дзяўчат і 23 хлопцы. 19 з іх было яўрэяў, астатнія – палякі і беларусы. Дырэктар успрымаў нас, што нам вельмі падабалася, як ужо сталых асоб.

У 1939 годзе немцы рабілі многа "шуму" пра вайну, дык мы часта задавалі дырэктару пытанні адносна палітыкі, на якія ён ахвотна нам адказваў.

Падчас вучобы ў старэйшых класах кружыў такі вершык пра Валожын:

*"A Wolozyn – miasto cudne?*
*Dwa hotele – i te Brudne,*
*Jeden Polak – i ten zyd,*
*Jeden burmistrz – i ten Szwed,*
*A starosta zawsze Cichy*
*I gospodarz z niego lichy".*

Тыя два гатэлікі належалі яўрэйскай сям'і з вуліцы Віленскай па прозвішчы Брудна. Самы багаты яўрэй меў прозвішча Поляк, бурмістр зваўся Швед, а староста – Ціхі.

Перад вайной у Валожыне было крыху больш за 6 000 жыхароў. Беларусаў было 42-45 працэнтаў, яўрэяў – дзесьці 30-35, астатнія – палякі. У горадзе таксама знаходзіўся 28-ы батальён корпуса аховы пагранічча, дзве паўшэхныя школы, а ў 1938 годзе адчынілі гімназію.

### Экскурсія ў Вільню

1939 год, чэрвень, апошнія тыдні перад заканчэннем школьнага года. У нашай школе была арганізаваная экскурсія ў Вільню на тры ночы і чатыры дні. Каштавала гэта сем злотых. І гутаркі не магло быць, каб мая матуля заплаціла столькі грошай. Але настаўнікі сабралі 14 злотых і рашылі пасланць яшчэ адну вучаніцу і аднаго вучня. Я быў гэтым "шчаслівым" вучнем.

Аднак, каб патрапіць у Вільню, трэба было яшчэ адну залатоўку на аўтобус, каб даехаць да станцыі ў Гародзьках. Імчу дадому і радасна кажу маці, што на экскурсію еду дарма, але трэба на білет да станцыі 1 злоты. На вялікі жаль, мама сказала, што грошай няма, але паслала да суседзяў, маўляў, можа хто пазычыць. Ды толькі нічога не выйшла, і з апушчанай галавой я вярнуўся ў школу.

Аднакласнікі, дазнаўшыся пра тое, што я не еду, выручылі. Адна з дзяўчынак, Дануся Яцкевіч, выкрыкнула: "Дзяўчаткі, хлопчыкі! Праз дурную залатоўку Мікалай не паедзе ў Вільню! Давайце мне сюды, хто колькі мае пры сабе, – 10, 5, а то і 1 грош". Узяла свой шэры скаўцкі капялюшык у руку і пачала збіраць на аўтобус для мяне. І сабрала патрэбную суму. А яшчэ нейкая пані з грамадскай апекі ўручыла мне два бутэрброды з вяндлінай на дарогу. Была гэта мая першая паездка цягніком.

Я заўсёды быў удзячны Данусі Яцкевіч і ўсё жыццё памятаў той яе ўчынак. Вельмі быў засмучаны, калі даведаўся, што тая шляхетная дзяўчына ў час нямецкай акупацыі ўтапілася ў Бярэзіне. Сябраваў я і з яе братам, Стасем, які загінуў на вайне недзе пад Віслай.

### Заканчэнне школы

Год 1938-1939 стаў апошнім, у якім я і 47 сяброў і сяброўак скончылі польскую сямігодку на 100 працэнтаў. Усе вельмі ганарыліся гэтым, і наш класны выхавацель Вёнцэк таксама. Для мяне асабіста было прыемна, што я апынуўся з адзнакамі на шостым месцы ў першай дзясятцы.

Павятовы школьны інспектар, спадар Стэльмах, які ўручаў нам пасведчанні, так нам сказаў: "Гэта сямігадовая навука дазволіць вам глянуць у вашым узросце смялей на свет і запланаваць сваю будучыню".

Так як мая будучыня на трохгектарнай гаспадарцы не выглядала надта ружовай, вырашыў напісаць заяву ў падафіцэрскую школу для юнакоў у горадзе Коніне ў Пазнанскім ваяводстве. Але выбухнула вайна, і я не атрымаў адказу на заяву. Можа б, нічога з таго і не выйшла, бо быў праваслаўнай веры і беларус па паходжанні.

**Мікалай МАХНАЧ, ЗША.**

---

**КАЛЯНДАР**

**300 гадоў** таму (1713) у вёсцы Засвір (цяпер Мядзельскі раён) на беразе возера Свір пабудаваны касцёл і манастыр кармелітаў.

***

**250 гадоў** назад (1763) у мястэчку Касцяневічы (цяпер Вілейскі раён) пабудаваны касцёл бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі.

***

**220 гадоў** назад (1793) у ходзе другога падзелу Рэчы Паспалітай Маладзечаншчына ўвайшла ў склад Расійскай імперыі.

***

**15 лютага.** Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.

***

**16 лютага.** 95 гадоў з дня нараджэння Івана Пушкова (1918 – 1986), жывапісца, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**17 лютага.** 85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Дамашэвіча (1928), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**18 лютага.** 120 гадоў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага (1893 –1938), пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка, фалькларыста, дзеяча беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння, лексікографа, прафесара, аднаго з пачынальнікаў беларускай нацыянальнай прозы.

***

**110 гадоў** з дня нараджэння Васіля Казлова (1903 – 1967), партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза.

***

**19 лютага.** 105 гадоў з дня нараджэння Станіслава Шушкевіча (1908 – 1991), беларускага паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***

**21 лютага.** Міжнародны дзень роднай мовы.

***

**190 гадоў** з дня нараджэння Станіслава Замбржыцкага (1823–1907), беларускага паэта, краязнаўца. Нарадзіўся на Маладзечаншчыне, у вёсцы Вязынка. Захавалася толькі адно яго вершаванае апавяданне "Гутарка Сталюка", у якім апісаны побыт народа, паказаная нікчэмнасць фанабэрыстай шляхты. Пад уплывам археолагаў і краязнаўцаў Яўстаха і Канстанціна Тышкевічаў, Адама Кіркора вывучаў курганы на радзіме, першы апісаў Вязынкаўскае гарадзішча.

Падрыхтавала **Марыя БЕРАСНЕВА.**

ПРЫГАЖОСЦЬ

# “А я іду такая ўся ў Dolce&Gabbana...”



Фота photosight.ru

У гонцы за модай дзяўчаты і жанчыны страчваюць сваю прыгажосць і індывідуальнасць.

## Дзесяць пунктаў, як беларускі самі псуюць сваю прыгажосць

Беларусь здаўна славілася сваімі прыгожымі і мілавіднымі дзяўчатамі. І калі яшчэ 100 год таму не было амаль ніякіх сродкаў, каб гэту прыгажосць сапсаваць, то цяпер як толькі не здзекуюцца прыгажуні са сваёй знешнасці.

Вось самыя распаўсюджаныя спосабы, як дзяўчаты і жанчыны так умела псуюць самі сябе.

### 1. Накладныя пазногці

Адным з самых моцных сродкаў з'яўляюцца накладныя пазногці. Чамусьці большая частка жанчын лічаць іх моднымі, хаця ўсе дызайнеры свету ўжо некалькі гадоў у адзін голас крычаць, што прыгожыя дагледжаныя пазногцікі з акуратным манікюрам куды больш прывабныя, чым трохсантыметровыя кіпцюры, распісаныя рознакаляровымі кветачкамі і завітушкамі.

Тым не менш, амаль у кожнай гандляркі або работніцы банка мы можам назіраць менавіта накладныя пазногці, а таксама, як смешна яны чапляюцца за клавіятуру падчас працы.

### 2. Стразы

Узброіўшыся кіпцюрамі, жанчыны, нібы тыя вароны, пачынаюць скупляць у крамах усё бліскучае. Стразы мы можам убачыць і на джынсах, і на сумках, і на акулярах, і на абутку – ды ўсюды!

Чамусьці гэта ў народзе таксама лічыцца прыгожым, толькі заўсёды трэба памятаць, што, прычапіўшы бліскучыя каменьчыкі на якую-небудзь сваю рэч, вы адразу ж робіце яе знешні выгляд у некалькі разоў таннейшым, чым ён ёсць на самой справе. Адразу кідаецца ў вочы, бо бляск дыяментаў дужа адрозніваецца ад бляску пластмасак.

### 3. Макіяж

Бліскучыя і з кіпцюрамі, нашы жанчыны пачынаюць наводзіць макіяж... Вось тут сапраўды становіцца страшна, хаця б таму, што палова з іх, дзесьці саракагадовага ўзросту, малююць вочы ярка-сінімі ценямі, а вусны – ружовай памадай.

Не, яны не збіраюцца на дыскатэку 80-х, яны ідуць у такім выглядзе на вуліцу, на працу, у краму. Маладых жа дзяўчат, асабліва падлеткавага ўзросту, часта можна ўбачыць з тлуста нафарбаванымі чорным колерам вачыма. Вядома, гэта можа прыгожа глядзецца, скажам, на дыскатэцы ці арт-вечарыне, але ў паўсядзённым жыцці такі макіяж звычайна перабівае ўсю свежасць і прыгажосць маладога твару, што таксама крыўдна.

### 4. Прычоска

Вядома, створаны мной вобраз будзе няпоўны без адпаведнай прычоскі.

Тут таксама кожная стараецца, як можа. Прычым кожную раніцу. Хто кожны дзень накручвае валасы на бігудзі, хто здзекуецца са сваіх валасоў з дапамогай начосаў.

На якія толькі пакуты не ідуць нашы жанчыны, каб кожны дзень выглядаць, як калядная ялінка, а дастаткова проста правільнай стрыжкі і прыгожых дагледжаных валасоў. А калі вы жадаеце чагосьці больш цікавага, паспрабуйце заняцца касапляценнем, якое цяпер вельмі актуальнае.

### 5. Адзенне

Адным з самых непапраўных з'яўляецца кароткая спадніца ў 30-градусны мароз. Як ні вядуць прапаганду дактары, але ўсё роўна кожную зіму можна пабачыць на вуліцы такую вось “прыгажуню” з сінімі нагамі, якія прасвечваюцца праз 20-дэнавыя калготы. Глядзіш на яе, і самому холадна робіцца. А калі вы ўсё ж вырашылі, што не зможаце абысціся без любімай спадніцы, надзеньце дзве пары калгот: звычайныя, на 40 дэн, і карункавыя, цёплыя.

Звяртайце ўвагу на бялізну: вельмі непрыемна, калі кожны можа ўбачыць яе пры нахіленні, або калі яна выдзяляецца пад аблягаючым адзеннем.

### 6. “Міксаванне стыляў”

Апранаемся далей. Любяць жанчыны, асабліва ў маленькіх гарадах, займацца “міксаваннем стыляў”.

Адным з самых шкодных злучэнняў, якія пры гэтым атрымоўваюцца, з'яўляюцца спартыўныя штаны + туфлі. Сюды ж можна аднесці класічныя штаны, апранутыя пад гумовыя сланцы або красоўкі. Так звычайна жанчыны выбягаюць “на хвілiначку” з дому ў краму ці яшчэ куды. Гэта, дарэчы, датычыцца і мужчын, якія часам выносяць смецце ў такім выглядзе, што толькі варон на агародзе пужаць. Тут дастаткова гумовых сланцаў і шкарпэтак, якія неразлучна існуюць у гардэробе нашых мужчын.

### 7. Абутак

Абуваемся. Ну, тое, што нашы жанчыны ў звычайную краму па прадукты могуць пайсці на дзесяцісантыметровых шпільках – даўно не навіна. Тым больш, што падабраная раней прычоска, макіяж і манікюр таму адпавядаюць.

Мяне больш непакояць красоўкі, якія носяць амаль усе, амаль усюды, забываючы, што гэты абутак, дарэчы, пасуе толькі для заняткаў спортам і з'яўляецца шкодным, калі яго насіць цэлы дзень.

Падбірайце абутак адпаведна сітуацыі. А галоўнае – сачыце, каб ён быў зручны і ўтульны.

### 8. Вопратка

Пераходзім да вопраткі. Калі казаць пра дзяўчат, то тут “хітом” з'яўляецца кароткая зімовая куртка, якая пры нахіленні радасна дэманструе нам паўспіны сваёй гаспадыні.

Але больш за ўсё мяне ўражвае, калі сталыя жанчыны апранаюць штучныя футры, дублёнкі і шапку на галаву з якім-небудзь мядзведзікам і знаёмымі нам ужо стразікамі.

Падбірайце галаўныя ўборы адпаведна верхняму адзенню: салiднае верхняе адзенне – салідная шапка. У адваротным выпадку ваша самае дарагое і шыкоўнае футра будзе выглядаць проста недарэчна разам з танным галаўным уборам.

### 9. Упрыгожванні

Завяршаем вобраз упрыгожваннямі. Дзяўчаты звычайна больш забаўляюцца з біжутэрыяй, што, дарэчы, не заўсёды кепска, калі не абчэплівацца таннымі пацеркамі з галавы да ног. Жанчыны ж надзяваюць сабе на рукі кучу залатых пярсцёнкаў, часам з брыльянцікамі, каб проста схадзіць у тую ж краму ці на працу, пафарсіць перад сяброўкамі і калегамі. Але калегі, у адрозненне ад вас, могуць ведаць, што насіць брыльянты да пяці гадзін вечара лічыцца дурным тонам.

### 10. Сумачка

Ну і сумачка, куды ж без яе! Чамусьці ніяк не могуць зразумець нашы жанчыны, што падбіраць сумку і абутак ідэальна аднолькавага колеру, фактуры і матэрыялу было модна некалькі гадоў назад. Ды толькі большасць з гэтым не пагаджаецца і дадае ў гэту кампанію яшчэ які-небудзь рэмень або гадзіннік.

І ўсё ж мы добра жывём. Чаму? А вы пагляндзіце на вуліцу: кожная другая ходзіць у нас з сумкай ад “Dolce&Gabbana”, “PRADA”, “Gucci”. І няма чаму здзіўляцца, бо ў дамы з начосам у руцэ з размаляванымі пазногцямі абавязкова павінна быць “фірмовая” сумка.

**Таццяна УЛАДЫКА,**
**школа маладога журналіста, студэнтка 4 курса, спецыяльнасць: дызайнер адзення.**

# Месяцавы каляндар

## садавода і агародніка на 2013 год



**Штогодні традыцыйны месяцавы каляндар садавода і агародніка на 2013 год. Улік квадраў Месяца, становішча Месяца ў знаках задыяка. Рэкамендацыі для садаводаў і агароднікаў. Уплыў неспрыяльных, у тым ліку сатанінскіх дзён. Новае: парады і падказкі траўнікам і грыбнікам.**

**Заўсёды памятайце, што на добрыя вынікі ў агароднай справе і ў садзе ўплываюць не толькі тэрміны правядзення работ, але таксама і агульныя ўмовы вегетацыі раслін. Звяртайце ўвагу на надвор'е. Арыентуйцеся на агратэхнічныя рэкамендацыі. Комплекснае прымяненне агратэхнічных канонаў і парад месяцавага календара дазволіць парадаваць сябе і сваіх блізкіх добрым ураджаем.**

## Другое паўгоддзе

### Ліпень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Збор ўраджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых культур |
| 2-3 | Рэкамендуецца пасадка ўсіх караняплодаў, клубневых і цыбульных культур. Абрэзка дрэў і кустоў. Збор садавіны, ягад і агародніны, грыбоў на зімовыя запасы |
| 4-6 | **Не рэкамендуецца пасадка і перасадка травяністых культур.** Эфектыўныя праполка, культывацыя |
| 7 | Рэкамендуецца пасадка большасці караняплодаў. Збіраюць усё, што не падлягае працяглайму захоўванню |
| 8 -11 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца збор і сушка садавіны. Барацьба са шкоднікамі |
| 12-13 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць агародніну.** Добра прымуцца дэкаратыўныя расліны |
| 14-15 | Рэкамендуецца пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Эфектыўныя паліў і касьба |
| 16-17 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур: капусты, памідораў, агуркоў, перцу, гарбузоў |
| 18-19 | Рэкамендуецца пасадка зеляніны, цыбулі, часнаку, лекавых траў – на насенне. Сушка агародніны і грыбоў |
| 20-21 | Унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба |
| 22-23 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне, абрэзка дрэў |
| 24-26 | Рэкамендуюцца пасадкі цыбульных. Нарыхтоўка варэння і саленняў. Выдатны час для культывацыі, паліву |
| 27-28 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуюцца збор ўраджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых і эфіраалейных культур, сушка агародніны і садавіны |
| 29-30 | Рэкамендуецца пасадка ўсіх клубневых. Садавіна, ягады і грыбы прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 31 | **Не рэкамендуецца пасадка травяністых культур.** Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |

### Жнівень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1-2 | **Не рэкамендуецца пасадка травяністых культур.** Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 3-4 | Рэкамендуецца пасадка большасці караняплодаў. Нарыхтоўка лекавых траў патрабуе эфектыўнай сушкі |
| 5-6 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка.** Рэкамендуюцца збор і сушка садавіны і караняплодаў, касьба. Спрыяльны час для падрыхтоўкі градаў да пасадак, для барацьбы са шкоднікамі, нарыхтоўкі лекавых траў |
| 7 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка** |
| 8-9 | **Не рэкамендуецца саджаць і перасаджваць агародніну.** Добра прымуцца дэкаратыўныя расліны. Рэкамендуецца саджаць павойныя расліны. Касьба |
| 10-12 | Рэкамендуюцца пасадка кветак, закладка клубняў і насення на захоўванне. Эфектыўныя паліў і касьба |
| 13-14 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур. Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы. Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў |
| 15-16 | Рэкамендуюцца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Выдатная пара для сушкі агародніны і грыбоў |
| 17-18 | Унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба |
| 19-20 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка.** Рэкамендуецца збіраць збожжавыя і караняплоды, праполка |
| 21 | **Не рэкамендуюцца сяўба і пасадка** |
| 22 | Рэкамендуецца нарыхтоўваць насенне. Выдатны час для культывацыі і ўнясення ўгнаенняў |
| 23-24 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца знішчэнне шкоднікаў, праполка і мульчыраванне |
| 25-27 | Абрэзка дрэў і кустоў. Садавіна, ягады і гародніна, грыбы прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 28-29 | **Не рэкамендуюцца пасадка і перасадка.** Збор лекавых траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 30-31 | Рэкамендуецца нарыхтоўка зеляніны і лекавых траў, якія патрабуюць асабліва эфектыўнай сушкі |

### Верасень

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Рэкамендуецца нарыхтоўка зеляніны і лекавых траў, якія патрабуюць асабліва эфектыўнай сушкі |
| 2-3 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка.** Рэкамендуюцца збор і сушка садавіны і караняплодаў, асабліва ўборка бульбы. Нарыхтоўка лекавых траў |
| 4 | Час выкопваць цыбуліны нарцысаў і цюльпанаў |
| 5 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне |
| 6-8 | Рэкамендуецца закладка клубняў і насення на захоўванне. Пасадка костачкавых фруктовых дрэў |
| 9-10 | Рэкамендуецца пасадка большасці культур. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 11-12 | Рэкамендуецца збор агародніны, бульбы, садавіны, ягад і насення. Сушка агародніны і грыбоў |
| 13-14 | Рэкамендуюцца пасадка і перасадка дрэў і кустоў. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў |
| 15-16 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Можна нарыхтоўваць насенне, падстрыгаць дрэвы і кусты |
| 17-18 | Нарыхтоўка саленняў. Культывацыя і ўгнойванне |
| 19-21 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Збор ўраджаю караняплодаў, садавіны, ягад, лекавых траў |
| 22-23 | Рэкамендуецца пасадка азімага часнаку, цыбулі. Абрэзка дрэў і кустоў. Нарыхтоўка саленняў. Сушка грыбоў |
| 24-25 | **Не рэкамендуецца пасадка і перасадка травяністых культур.** Збор траў, караняплодаў, садавіны і ягад |
| 26-28 | Рэкамендуецца нарыхтоўка зеляніны і лекавых траў, якія патрабуюць асабліва эфектыўнай сушкі |
| 29-30 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка садова-агародных культур.** Рэкамендуецца збор і сушка садавіны і караняплодаў, асабліва ўборка бульбы. Спрыяльны час для падрыхтоўкі градаў да пасадак |

### Кастрычнік

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1-3 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка.** Рэкамендуюцца культывацыя, акучванне, мульчыраванне дрэў |
| 4 | Рэкамендуецца закладка клубняў на захоўванне |
| 5 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадка.** Рэкамендуецца праводзіць апырскванне і абкурванне |
| 6-7 | **Не рэкамендуецца размнажаць расліны каранямі, збіраць травы і саджаць дрэвы.** Эфектыўныя падрэзка дрэў і ягадных кустоў, прышчэпка. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 8-9 | Рэкамендуюцца збор гародніны, садавіны, ягад і насення, зразанне кветак. Выдатная пара для сушкі агародніны і грыбоў |
| 10-11 | Рэкамендуюцца пасадка і перасадка дрэў і кустоў. Рыхленне, унясенне ўгнаенняў, прышчэпка дрэў, касьба. Са зрэзаных кветак складаюць выдатныя букеты |
| 12-14 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца апырскванне саду ад шкоднікаў |
| 15-16 | Рэкамендуюцца апырскванне саду ад шкоднікаў, што зімуюць на раслінах, і ўцяпленне ягадных кустоў |
| 17-18 | Рэкамендуюцца барацьба з хваробамі і шкоднікамі, прасушванне, праветрыванне |
| 19 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 20 | Рэкамендуецца пасадка азімага часнаку, цыбулі. Абрэзка дрэў і кустоў. Грыбы, сабраныя ў гэты час, прыдатныя для стварэння зімовых запасаў |
| 21-23 | Рэкамендуюцца рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Удалы час для ўкрыцця шматгадовых раслін на зіму |
| 24-25 | Рэкамендуюцца рыхленне сухой глебы, барацьба з надземнымі шкоднікамі. Абрэзка не рэкамендуецца |
| 26-28 | Рэкамендуецца культывацыя глебы. Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі раслін |
| 29-30 | Рэкамендуюцца рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 31 | Рэкамендуецца навядзенне парадку на ўчастку |

### Лістапад

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Рэкамендуецца навядзенне парадку на ўчастку |
| 2 | Рэкамендуецца абрэзка кустоў і дрэў. Рэкамендуюцца апырскванне саду ад шкоднікаў, што зімуюць на раслінах, і ўцяпленне ягадных кустоў |
| 3-6 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 7-8 | Рэкамендуецца нарыхтоўка чаранкоў для вясновай пасадкі . Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 9-10 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі.** Рэкамендуецца акучванне градак са шматгадовымі раслінамі |
| 11-12 | Сяўба зеляніны і гародніны на падваконні або ў зімовых цяпліцах. Рэкамендуюцца паліў, унясенне ўгнаенняў. Удалы час для ўкрыцця шматгадовых раслін на зіму |
| 13-14 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Рэкамендуецца барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 15-16 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 17 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 18-19 | Рэкамендуецца рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі. Добры час для кансервавання садавіны і агародніны |
| 20-22 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба агародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 23-24 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 25-27 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 28-29 | Сяўба зеляніны і пасадка цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы, падкормка кветак |
| 30 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |

### Снежань

| Дата | Віды работ у садзе і агародзе |
|---|---|
| 1 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |
| 2 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 3 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 4-5 | Рэкамендуюцца пасадкі на насенне. Рыхленне глебы, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 6-7 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 8-9 | Сяўба ліставой гародніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Рэкамендуюцца паліў, унясенне ўгнаенняў |
| 10-11 | Сяўба зеляніны для вырошчвання ў доме або ў зімовай цяпліцы. Рэкамендуецца барацьба са шкоднікамі пакаёвых раслін |
| 12-14 | Сяўба зеляніны, а таксама сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Унясенне арганічных угнаенняў |
| 15-16 | Рэкамендуюцца рыхленне глебы і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 17 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 18 | Выдатны час для перасадкі пакаёвых раслін. Сяўба агародніны для вырошчвання ў зімовай цяпліцы |
| 19-21 | **Не рэкамендуюцца сяўба і перасадкі** |
| 22-24 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін, рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў, барацьба з глебавымі шкоднікамі |
| 25-26 | Сяўба зеляніны і пасадка цыбульных кветак для вырошчвання ў зімовай цяпліцы. Паліў, рыхленне глебы, падкормка кветак |
| 27-28 | Сяўба і перасадка пакаёвых раслін. Паліў, рыхленне глебы і падкормка кветак |
| 29-30 | Рыхленне глебы, унясенне ўгнаенняў і барацьба з надземнымі шкоднікамі |
| 31 | Рэкамендуюцца пасадкі на насенне. Рыхленне глебы, барацьба з глебавымі шкоднікамі |

**Падрыхтаваў Аляксандр КІБЕРАЎ.**

### Папраўка

Праходжанне Месяцам знакаў задыяка дадзена ў мінулым нумары на 2013 год.

* Прадуктыўныя і непрадуктыўныя знакі задыяка – у наступным нумары.

ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# Няўжо футбола не будзе?



Архіў "РГ".

Чэмпіянат 2012 года. Футбалісты "Маладзечна" небяспечна атакуюць вароты гасцей з "Баранавічаў". Калі сёлета наша каманда абмяжуецца толькі абласным першынством, то балельшчыкі не ўбачаць на гарадскім стадыёне прадстаўнікоў з іншых куткоў Беларусі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Упершыню за доўгі час адбылося пашыранае пасяджэнне раённай (пярвічнай) федэрацыі футбола.**

У зале для канферэнцый спартыўна-відовішчнага цэнтра сабралася каля пяцідзесяці зацікаўленых асоб.

Яны абралі адзінаццаць членаў прэзідыуму федэрацыі і трох членаў рэвізійнай камісіі, а вось старшыню федэрацыі абралі не адразу. Спачатку гэта пасада пры згодзе большасці была прапанавана дырэктару футбольнай ДЮСШ №4 **Віктару Дзмітрачкову**, але ён вырашыў узяць самаадвод. У выніку старшынёй стаў **Мікалай Мятліцкі**, спецыяліст з Чысці.

Самым вострым пытаннем аказаліся, канешне, праблемы галоўнай футбольнай каманды. Спонсары ніяк не знаходзяцца, а райвыканкам нічога новага абяцаць не можа. Такім чынам, існуе верагоднасць, што наша каманда сёлета зусім будзе адсутнічаць на рэспубліканскім узроўні, і балельшчыкі змогуць назіраць толькі матчы абласнога чэмпіянату. Сярод удзельнікаў другой лігі будуць каманды такіх невялікіх гарадкоў, як Дзяржынск, Масты, Асіповічы. Крыўдна, што ў такой кампаніі няма трывалага месца для нашага Маладзечна.

### Планы і фінансы некаторых камандаў

У рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі з'явіліся навіны аб справах удзельнікаў другой лігі.

"Мінск-2", які летась заняў пятае месца, атрымаў прапанову ад прадстаўнікоў беларускай федэрацыі футбола прайсці ліцэнзаванне для ўдзелу ў турніры першай лігі. Там можа ўтварыцца вакансія, бо каманда гомельскага домабудаўнічага камбіната знаходзіцца пад пагрозай расфарміравання.

Кіраўніцтвам сталічнай "Зоркі-БДУ" пастаўленая задача выхаду іх каманды ў першую лігу. Мінулагодні склад большай часткай захаваны, і цяпер трэнеры займаюцца яго ўзмацненнем. Футбалісты працуюць ад самага Новага года і за гэты час паспелі правесці ажно чатыры кантрольныя сустрэчы.

Галоўны трэнер "Гомельчыгунтранса" **Генадзь Шабуня** гаворыць, што ў цяперашнім статусе адной з мацнейшых камандаў другой лігі яны адчуваюць сябе больш чым упэўнена. Гэты ўзровень збіраецца трымацца і ў наступным сезоне.

Дырэктар клуба "Жлобін" **Віктар Іваноў** расказаў, што з мясцовага бюджэту плануецца выкарыстаць 500 мільёнаў рублёў на зарплату футбалістам. Калі ж клуб падтрымаюць яшчэ і спонсары, то можна будзе шукаць варыянты ўзмацнення кваліфікаванымі гульцамі з іншых гарадоў.

Прадстаўнікі каманды "Орша" кажуць, што ўваходзяць у новы сезон са спакойнымі думкамі. Ад мясцовага кіраўніцтва атрыманая стопрацэнтная гарантыя, што каманда без падтрымкі не застанецца. Пытанне аб заяўцы ў другую лігу, як гэта было ў мінулым годзе, нагогул не стаіць.

Галоўны трэнер "Асіповічаў" **Аляксандр Кончыц** чакаў іншых навін, а менавіта, падпісання рэспубліканскага ўказа аб дзяржпадтрымцы бюджэтных спартыўных клубаў на 2013 год. Гэта будзе своеасаблівым стартам для актыўнай працы.

У Баранавічах доўгі час не было ні старшыні клуба, ні дырэктара клуба, ні галоўнага трэнера. Сітуацыя павінна вырашацца якраз гэтымі днямі. Толькі потым можна будзе казаць аб фарміраванні складу і праглядзе патэнцыйных навічкоў.

Галоўны трэнер дзяржынскай "Лівадзіі" **Віктар Юрага** не сумняваецца, што каманда выступіць у другой лізе. Мясцовае кіраўніцтва дало мінімальныя фінансавыя гарантыі, хаця аб зарплатах і прэміяльных гаворка пакуль не вядзецца.

Падрыхтаваў
Сяргей ГАЙКОВІЧ.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# "Серабро" юніёркі, перамогі школьнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА, АСТРАВЕЦ. Зімовыя месяцы – гэта той час, калі прадстаўнікі каралевы спорту высвятляюць свае адносіны пад дахам закрытых памяшканняў.**

7-9 лютага спецыялізаваны комплекс у Магілёве сабраў удзельнікаў першынства краіны сярод юніёраў і юніёрак, якім па 17-18 гадоў.

Каманда Мінскай вобласці ездзіла туды пад кіраўніцтвам **Леаніда Арцем'ева**, спецыяліста з маладзечанскай ДЮСШ №3. Са сваёй спартыўнай школы ён узяў чатырох выхаванцаў. Адна з іх – **Таццяна Гулецкая** – стала сярэбраным прызёрам турніру на дыстанцыі 1500 метраў з паказчыкам 4.50,03. Каля 4 секунд яна саступіла пераможцы і каля 1 секунды выйграла ў бронзавага прызёра.

На дыстанцыі 2000 метраў з перашкодамі чацвертае месца заняла **Вераніка Ваўковіч**. На дыстанцыі 3000 метраў Таццяна Гулецкая стала таксама чацвертай, а Вераніка Ваўковіч – шостай.

У апошняй дэкадзе студзеня горад Брэст прыняў удзельнікаў дзвюх рэспубліканскіх спартакіяд сярод юнакоў і дзяўчат рознага ўзросту. Прадстаўнікі рэгіёна прывезлі адтуль некалькі першых месцаў.

**Анастасія Рароўская** (катэгорыя 1996-97 гадоў нараджэння) з Астраўца выйграла хадзьбу на пяць кіламетраў. Яна паказала час 25.37,5 з адрывам у 40 секунд ад бліжэйшай канкурэнткі. **Уладзіслаў Сяргей** (катэгорыя 1998-99 гадоў нараджэння) з Маладзечна выйграў бег на 800 метраў, паказаў час 2.05,0 з адрывам у 2,1 секунды. І ён жа выйграў бег на 1500 метраў, час – 4.25,0 з адрывам у 4,2 секунды.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

КОНКУРСЫ

# Ану, хлопцы і дзяўчаты!

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс "Ану, хлопцы! Ану, дзяўчаты!" прайшоў на базе гімназіі №10 8 лютага.**

Сумеснае мерапрыемства арганізавалі педагогі гімназіі, цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік", супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў і ДАІ.

На адкрыцці спартакіяды ўдзельнікаў вітаў падпалкоўнік міліцыі, намеснік начальніка РАУС **Уладзімір Балкоўскі**. Затым супрацоўнік дзяржаўтаінспекцыі **Сяргей Барташ** правёў тэставанне на веданне правілаў дарожнага руху. Тут усіх здзівіў **Андрэй Карпіцкі**, які выканаў заданне ўсяго за 34 секунды!

Сярод традыцыйных спаборніцтваў маю ўвагу прыцягнуў новы і незвычайны від …скіпінг (ад англійскага "to skip" – скакаць). У 80-я гады мінулага стагоддзя забава са скакалкай была настолькі папулярная, што перарасла ў асобны від спорту. У кожнага ўдзельніка была роўна адна хвіліна, каб прадэманстраваць умелае валоданне скакалкай. Лепш за ўсіх гэта зрабілі **Ангеліна Пекар** (134 скачкі за хвіліну) і **Юры Лаўрышчаў** (130 скачкоў).

Паціборствa завяршылася спаборніцтвамі па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі. Званне "меткага стралка" заваявалі Юры Лаўрышчаў і **Юля Раманоўская**.

Цікавымі фактамі з гісторыі конкурсу падзялілася педагог-арганізатар "Маладзіка" **Галіна Іванькіна**. Яго адрадзілі пасля 25-гадовага перапынку. Дарэчы, пераможам аднаго з іх тады быў вучань сярэдняй школы №10 Уладзімір Балкоўскі, які цяпер стаў галоўным суддзём спартакіяды.

Настасся СКРЫЦКАЯ,
школа журналістыкі
"Маладзік".

СПАБОРНІЦТВЫ

# У Мядзеле вызначылі лепшых "снежных снайпераў"

**МЯДЗЕЛ. 9 лютага ў райцэнтры прайшлі спаборніцтвы "Снежны снайпер" сярод школьнікаў.**

Адразу яны выявілі лепшых у стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі ў ціры СШ №2 Мядзела. Потым спаборнічалі на лыжнай трасе непадалёку ад фізкультурна-аздараўленчага цэнтра. У малодшай групе сярод дзяўчынак перамагла **Алеся Шып** з Занарацкай СШ, у хлопчыкаў – **Ілля Паўлоўскі** з Будслаўскай сярэдняй школы.

У старэйшай групе першыя месцы заваявалі будслаўчане **Кацярына Хацяновіч** і **Антон Роўда**. У камандным заліку пераможцай стала каманда Будслаўскай сярэдняй школы. Па выніках спаборніцтваў вызначылася зборная раёна, якая прыме ўдзел у абласных спаборніцтвах "Снежны снайпер".

Алесь ВЫСОЦКІ.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Пераможца ў малодшай групе сярод дзяўчынак Алеся Шып.

## Лыжная гонка на Заечай паляне

**МАЛАДЗЕЧНА**. Каманда Маладзечанскага райвыканкама заняла пятае месца сярод 24 камандаў у абласным зімовым спартыўным свяце.

Свята "Лыжная гонка на прызы Мінаблвыканкама – 2013" прайшло ў межах праграмы "Беларуская лыжня – 2013".

Спаборніцтвы адбыліся 9 лютага ў Лагойскім раёне на Заечай паляне.

## Спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Першынство Рэспублікі Беларусь па лёгкай атлетыцы праходзіла ад 7 да 9 лютага ў Магілёве.

Другое месца ў асабовым заліку па бегу на 1500 кіламетраў заняла маладзечанка Таццяна Гулецкая.

## Прайшлі Алімпійскія дні моладзі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 8 да 10 лютага ў Барысаве праходзілі Алімпійскія дні моладзі Мінскай вобласці па баскетболе сярод юнакоў 16-17 гадоў.

Каманда Маладзечанскага раёна заняла трэцяе месца сярод 12 камандаў.

Аддзел інфармацыі.

АНОНС

## Адбудуцца занальныя спаборніцтвы па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ.** З 15 па 17 лютага на базе фізкультурна-аздараўленчага цэнтра пройдуць занальныя спаборніцтвы па мініфутболе на першынство Мінскай вобласці.

Чакаецца ўдзел камандаў Валожынскага, Маладзечанскага, Вілейскага, Мінскага і Мядзельскага раёнаў.

## Лыжныя гонкі пройдуць у Бярозавым Гаі

**МАЛАДЗЕЧНА.** У Бярозавы Гаі 17 лютага пройдуць абласныя фінальныя спаборніцтвы зімняй спартакіяды па лыжных гонках сярод сельскіх жыхароў.

Пачатак а 13 гадзіне.

Аддзел інфармацыі.

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Мікалай Шрымф: "У футбалістаў вочы павінны свяціцца ад выгляду мяча, а не грошай"

Вось пра футбалістаў ва ўсіх газетах пішуць, прыцягваюць да іх увагу. "Рэгіянальнай газеце" дзякуй, кожны тыдзень пішаце аб матчах і гульцах. Вядома, часам крытыкуеце, але часцей за ўсё хваліце.

Вось калі б пра мяне кожны тыдзень у газетах пісалі, то я грошай за сваю працу асабліва і не патрабаваў бы. ***Арол.***

### Стартуе акцыя "Бяспека ў кожны дом"

Толькі ў канцы зімы надумаліся праводзіць прафілактычныя акцыі, як папярэдзіць выпадкі пажараў і гібель людзей. Але ці не занадта позна яны адумаліся гэта рабіць? Глядзіце, колькі пажараў адбылося за прайшоўшы час і колькі жыццяў гэтыя пажары панеслі. У пачатку восені гэту акцыю трэба было праводзіць, а не цяпер. Крыху спазніліся, шаноўныя. Але ў нас, як заўсёды: "Пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца". ***Зямляк.***

### Рэпертуары на люты – глядзіце ў Маладзечне

Хто б мяне запрасіў у кіно!!! :( ***Эрыка.***

Эрыка, мяне таксама ніхто не запрашае. Хадземце разам :) ***Жужа.***

### У Вілейцы інвалід зваліўся ў калодзеж

Як вядома, п'янага чалавека мучыць смага. А тут, як на тую бяду, у хаце ні кроплі вады. Вось і пайшоў небарака на слабых ножках да студні. Ды і слізка ж вядома, бо зіма. Так атрымалася, што не ўтрымаўся каля студні, паслізнуўся і зваліўся ў яе. Добра, што была яна ўсяго 4 метры глыбінёй і выратавальнікі хутка прыехалі і выцягнулі яго, а так зусім дрэнна было б чалавеку. ***Зямляк.***

### Мінімальны бал на ЦТ павысяць сёлета

Можа, гэта і падаецца абітурыентам несправядлівым ці непатрэбным, але, на мой погляд, так будзе значна лепш. Сама я студэнтка, не скажу, што вельмі разумная, але лёгка здала пры паступленні ў ВНУ ўсе тэставанні больш чым на 20 балаў. Вось калі прыходзяць ва ўніверсітэт людзі, якія селёта здавалі ЦТ, у якім мінімальны бал быў 7, нехаця задумаешся, як яго падняць і "адсеяць" большасць сённяшніх студэнтаў: яны ж не стараюцца, не проста не жадаюць вучыцца, але і іншым перашкаджаюць. Пабольш сур'ёзнасці, абітурыенты! ***Марынка.***

### Смаргонец выплаціць 20 мільёнаў маладзечанцу

Колькі езджу па горадзе, столькі і асцерагаюся машын з 4 рэгіёнам, ведаю, што за рулём сядзяць дрэнныя кіроўцы. Смаргонцы не ўмеюць ездзіць, не бачаць ні знакаў, ні разметкі, таму паглядзіце, даязджаючы да Насілава, пакідаць свае аўтамабілі і рухацца далей пешшу! ***Ау.***

Таксама заўсёды асцерагаюся 4, асабліва пры павароце налева па стрэлцы з праспекта на Віленскую. ***Сяргей.***

### Стадыён для пляжнага валейбола з'явіцца ў Маладзечне

На футболе што – свет клінам сышоўся? Іншыя віды спорту развіваць не трэба? Чым вас не задавальняе пляжны валейбол? А футбалісты разам са сваімі вернымі фанатамі замест з'едлівых каментаў маглі б на самой справе скласці бізнес-план і зарабляць. На чым? Ды хаця б на тым жа папкорне і марозіве на матчах, як прапаноўваў Шрымф у папярэднім інтэрв'ю. Не падабаецца гэты варыянт, прыдумайце свой. Але думайце, думайце… ***Vasilisa.***

Я, вядома, не супраць спорту, але хутка такімі тэмпамі ад парку нічога не застанецца. І так для горада ён маленькі, а з рознага роду добраўпарадкавання і таго менш. Куды глядзяць нашы эколагі? Цікава, ці досыць зялёных насаджэнняў у горадзе адносна яго плошчы і насельніцтва. ***Сяргей.***

Хацелася б удакладніць… Гэтыя 1500 месцаў на трыбунах зноў школьнікамі запаўняць будуць? Як у лядовым і на стадыёне? ***Alena.***

Alena, гэта куды лепш, чым дзеці сядзяць дома за камп'ютарамі. ***Света.***

### ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

**Ці будзеце вы святкаваць Дзень усіх закаханых 14 лютага?**

| | |
|---|---|
| 23% | Прыкра ў гэты дзень ад натоўпу пазёраў |
| 21% | Я святкую гэтае свята ў любы дзень, калі ёсць натхненне |
| 21% | Я кахаю |
| 14% | Віншую тых, хто святкуе |
| 09% | Я не кахаю |
| 28% | Абавязкова! Спадзяюся на нечаканую валянцінку! |

Усяго галасоў 42

КОНКУРСЫ

# Выявілі лепшых знаўцаў правілаў дарожнага руху

**МЯДЗЕЛ. 8 лютага ў Цэнтры творчасці дзяцей і моладзі раёна прайшоў раённы этап восьмай абласной алімпіяды па правілах дарожнага руху. У ім прымалі ўдзел прадстаўнікі 17 школ Мядзельскага раёна.**

У кожнай камандзе было па адным вучню пятага, шостага і сёмага класаў. Адразу ўдзельнікі адказвалі на 10 пытанняў у білеце па правілах дарожнага руху. Потым камандам трэба было вырашыць, хто з 33 удзельнікаў дарожнага руху парушае правілы. Апроч гэтага, кожная школа прадстаўляла відэаролік на тэму "Мой шлях у школу".

Пераможцай стала каманда Свірскай сярэдняй школы. Таксама вызначылі лепшых знаўцаў правілаў дарожнага руху. Сярод дзяўчат гэта **Кацярына Жаўнерка** са Слабодскай сярэдняй школы, паміж хлопцаў – **Віктар Звонік** з Княгініцкай СШ.



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Кацярына Жаўнерка, Віктар Звонік і старшы інспектар ДПС аддзялення ДАІ Андрэй Купрэвіч.

**ВІЛЕЙКА. Крыху раней падобнае мерапрыемства прайшло ў Вілейцы. Перамагла ў раённым этапе каманда СШ №5.**

– Разрыў паміж камандамі быў невялікі, – паведаміў старшы дзяржінспектар аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Сяргей Нікалаевіч**. – Добрыя веды правілаў дарожнага руху паказалі як вучні гарадскіх устаноў адукацыі, так і сельскіх школ.

Сярод пяцікласнікаў лепшыя веды паказала **Дар'я Буцер** з гімназіі №2, а сярод шасцікласнікаў – **Аляксей Кляўдо** з СШ №5. З гэтай жа школы пераможца сярод сямікласнікаў – **Ілля Брыль**.

Лепшыя з юных знаўцаў правілаў дарожнага руху прымуць удзел у абласной алімпіядзе, якая пройдзе ў Валожынскім раёне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### РЭПЕРТУАР кінатэатра "Радзіма"

**16–23 ЛЮТАГА**

**ВЯЛІКАЯ ЗАЛА**

Таранціна-вестэрн **"ДЖАНГА ВЫЗВАЛЕНЫ"** (ЗША, 2012, 2 серыі, фільм дазволены для прагляду гледачам ад 18 гадоў)
**16–21 лютага – у 18.00, 21.00**
Кошт білета – 30 000 рублёў

Анімацыйны камедыйны блокбастар **"ЛЕДНІКОВЫ ПЕРЫЯД 4: КАНТЫНЕНТАЛЬНЫ ДРЭЙФ"** (ЗША, 2012, дзецям да 12 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
**16,17 лютага – у 14.00, 16.00**
**20–21 лютага – у 16.00**
Кошт білета – 20 000 рублёў

Камедыйныя прыгоды. **"САЛАВЕЙ-РАЗБОЙНІК"** (Расія, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам ад 16 гадоў)
**22 лютага – у 17.30, 21.30**
**23 лютага – в 19.00**
Кошт білета – 20 000 рублёў

Крымінальная камедыя **"РЭАЛЬНЫЯ ХЛОПЦЫ"** (ЗША, 2013, фільм дазволены для прагляду гледачам ад 16 гадоў)
**22 лютага – у 19.30**
**23 лютага – у 14.30, 21.00**
Кошт білета – 22 000 рублёў

Драма **"У ТУМАНЕ"** (2D, Беларусь, Расія, Германія, Нідэрланды, 2012, дзецям да 14 гадоў прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)

**ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ**

Драма **"У ТУМАНЕ"**
**22 лютага – у 18.00, 20.30**
**23 лютага – у 16.30**

Анімацыйныя прыгоды. **"БОЛТ І БЛІП СПЯШАЮЦЦА НА ДАПАМОГУ"** (Канада, Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
**22 лютага – у 16.30**
**23 лютага – у 12.30, 14.00**

Тэлефон для даведак: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30.

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**17 нядзеля 12.00** Э.Т.Гофман. **"ШЧАЎКУНЧЫК"** (казачная казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**15 пятніца 11.30,**
**16 субота 10.30,**
**22 пятніца 11.30 "Баланчык"** (феерычная клаўнада) *Арцём Белазёраў*

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**15 пятніца 19.00 "Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Алена Папова*
**21 чацвер 19.00 "№13"** *(камедыя ў 2-х дзеях) Рэй Куні*

Тэатра мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,* тэл. для даведак: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by.

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 5 |
| 3 | | | | | 5 | | 4 | |
| 2 | | | 9 | | | 8 | | |
| | 1 | | 4 | | 8 | | 7 | |
| 4 | | | 7 | 6 | 1 | | | 9 |
| | 3 | | 5 | | 9 | | 1 | |
| | | 1 | | | 2 | | | 7 |
| | 7 | | 8 | | | | | 1 |
| 9 | | | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

### ГАРАСКОП (15-21 ЛЮТАГА)



**Авен.** Вам захочацца пабыць убаку ад усяго. І вы, каб ніхто не чапаў, будзеце прыкідвацца, што ў вас шмат работы ці што вы хворыя, ці то няма чаго надзець. А які свет вашых фантазій і сноў!?



**Цялец.** Не будзьце легкадумныя, аднясіцеся да сваіх абавязкаў з адказнасцю, і вам гарантавана грамадскае прызнанне вашых заслуг.



**Блізняты.** Шчырасць, паразуменне і падтрымка вас "выратуюць" ад жыццёвай руціны. Можаце пачынаць новыя праекты, справы.



**Рак.** Для вас стане дзівам, але вы ў сабе можаце выявіць здольнасці ў музычнай сферы, жывапісе ці ў іншых галінах культурнага жыцця. Паклапаціцеся пра ўмацаванне адносін са сваякамі з боку партнёра.



**Леў.** Калі хто ўжо будзе на гэты перыяд браць шлюб, то шлюбны саюз будзе садзейнічаць у далейшым павелічэнню вашых даходаў і паляпшэнню сацыяльнага статуса.



**Дзева.** Магчымыя перамены, звязаныя з юрыдычнымі пытаннямі і сувязямі з грамадскасцю, а таксама даходамі блізкіх вам людзей.



**Шалі.** Гэты перыяд будзе адзначаны гармоніяй ва ўсім, што тычыцца працоўнай дзейнасці. Вам карысна будзе наладзіць добрыя ўзаемаадносіны з калегамі. Ад гэтага работа будзе прыносіць больш радасці, атмасфера ў калектыве стане прыемнай.



**Скарпіён.** Для вас гэты перыяд ну, вельмі спрыяльны.



**Стралец.** Вам моцна захочацца ўпрыгожыць свой дом, набыць прадметы мастацтва для паляпшэння абстаноўкі. Можа здарыцца так, што вам на нейкі час трэба будзе з'ехаць, а так хочацца быць дома.



**Казярог.** Вы цяпер, як ніколі, абаяльныя і прывабныя. У вас абвостранае пачуццё гумару. Таму калі якія складанасці былі ва ўзаемаадносінах з блізкімі, сваякамі, суседзямі, то самы час усё наладзіць.



**Вадалей.** На першы план выйдуць пытанні сяброўства і ўласнага фінансавага стану. Вам захочацца набыць прадметы раскошы.



**Рыбы.** Калі нябёсы так спрыяльныя да вас, як у гэты перыяд, то ў цэлым вам забяспечана ўдача.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006



**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА**

## ■ НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / 0 | | -2 / -2 | | -4 / -4 | | -6 / -2 | |
| | 746 | ↙ 2 | 746 | ↓ 3 | 746 | ↓ 3 | 742 | → 1 |
| Вільня | -3 / -2 | | -3 / -3 | | -7 / -4 | | -7 / -2 | |
| | 756 | ← 2 | 756 | ↓ 2 | 756 | ↙ 2 | 751 | ↗ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.29
Захад 18.23
Даўжыня дня 9.54

Усход 10.26
Захад 1.08
Квадра 2

**16 лютага, субота**

| | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -4 / -2 | 752 | ↓ 2 |
| Гродна | -2 / -1 | 756 | ↓ 2 |
| Мінск | -2 / -2 | 746 | ↓ 3 |
| Магілёў | -4 / -2 | 752 | ↓ 1 |
| Брэст | -1 / 0 | 755 | ↓ 1 |
| Гомель | -1 / 0 | 768 | ↓ 3 |

## ■ ПРЫКМЕТЫ

- Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ.
- Паветра над лесам становіцца сінім – будзе цёпла.
- Месяц ўначы набывае чырвоны колер – чакай ветру, цяпла і снегу.

■ ІМПРЭЗЫ

# У Мядзеле прэзентавалі зборнік "Галасы роднага краю"

**МЯДЗЕЛ. Аб'яднанню самадзейных аўтараў "Медуніца" споўнілася год.**

З гэтай нагоды 7 лютага ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка адбылося пасяджэнне аб'яднання.

На ім прэзентавалі зборнік твораў самадзейных аўтараў Мядзельшчыны "Галасы роднага краю". У зборнік увайшлі творы 23 аўтараў: гэта каля 80 вершаў і тры апавяданні. Практычна ўсё творы – на беларускай мове. Выдала зборнік цэнтральная раённая бібліятэка.

На пасяджэнні выступілі намеснік дырэктара раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы **Людміла Несцяровіч**, кіраўнік аб'яднання "Медуніца" **Валянціна Яфімава**. Расказалі яны пра тое, што ўдалося зрабіць за год існавання, у якіх мерапрыемствах удзельнічалі самадзейныя паэты, аналізавалі творчасць мясцовых аўтараў.

Прачыталі свае вершы **Вячаслаў Броска, Надзея Чарапанава, Ірына Баравая, Святлана Роўда, Ілона Арцюхова**. Гучалі песні на творы паэтаў з "Медуніцы". Выканалі іх удзельнікі клуба аматараў песні "Верасень".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Вершы чытае Вячаслаў Броска.



■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці закаханыя вы?



**Сяргей Галубовіч, пенсіянер:**

– Магу пагаварыць з цікавымі дамамі, але закаханы толькі ў сваю жонку. Яна ў мяне вельмі прыгожая, бялявая, а восць характар… Бывае, сварымся, дык у каго ж такога няма?



**Дыяна Ланюгова, вучаніца:**

– Я не ўпэўненая, што закаханая. Падабаецца адзін малады чалавек, ён вельмі яркая асоба, іграе на гітары, такі высокі. Пакуль не ведае пра мае пачуцці, але і віншаваць з Днём Святога Валянціна я яго не буду.



**Алена Пятрова, маці траіх дзяцей:**

– Напэўна, яшчэ не ведаю дакладна. Ён проста добры чалавек, сярод іншых адразу выдзяляецца. На 14 лютага зраблю яму нечаканы падарунак. Спадзяюся, хутка будзе вяселле.



**Арцём Кузьмічоў, вучань:**

– Не, не закаханы. Шмат прыгожых дзяўчат, але не больш за тое. Пакуль не сустрэў тую, адзіную.



**Дар'я Капцюг, вучаніца:**

– Так, закаханая, у аднакласніка. Ён высокі, спартсмен. Гэта каханне з першага класа, з першага погляду. Віншаваць не буду, ён і так усё ведае.



**Наталля Радына, пенсіянерка:**

– Нягледзячы на свой узрост, безумоўна. А закахалася таму, што не думала-не чакала, а ён узяў і прапанаваў мяне запрасіў на танец. Кожны раз, пры любым надвор'і, прыязджае да мяне з Валожына. На Дзень Святога Валянціна падару яму прыгожую паштоўку-валянцінку.



**Усевалад Кацкель, студэнт:**

– Вядома. Абавязкова павіншую валянцінкамі ўсіх прыгожых дзяўчат. Добра, што сярод маіх знаёмых іх вельмі шмат.

**Падрыхтавала Марыя СВІРЫДОВІЧ.**

РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6600 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 7 (929) 15.02.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 108. Падпісана ў друк у 10.00 14.02.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.